● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

25 мая 1996 г. субота, № 130 (22933)




ЗВЯЗДА

ГРОШЫ

## «НАРАВІСТЫ БАКС» СПЫНІЎСЯ. НА ЯКІ ЧАС?

**На зыходзе месяц май, падобна, на зыходзе і ажыятаж, які ўзнік вакол скупкі долараў. Ліхаманкава адрэагаваўшы на сітуацыю на безнаяўным валютным рынку, які не задавальняў патрэбы пакупнікоў цвёрда канверсоўнай, «чорны» рынак адразу прапанаваў у пачатку месяца рэальныя на той час стаўкі продажу і куплі долара. Скарыстаўшы той момант, што банкі не змаглі задаволіць попыт шматлікіх пакупнікоў долара, на вуліцах папоўніліся шэрагі мянял, якія амаль на працягу ўсяго месяца дыктавалі свае ўмовы. Прычым паспяхова.**

Людзі, напалоханыя дэфіцытам афіцыйнага продажу валюты і размовамі аб новых вялікіх межах «калідора», ахвотна расставаліся з беларускімі рублямі, набываючы ўзамен значна «цяжэйшы» долар. Апошнімі днямі дайшло да таго, што «чорны» рынак прапанаваў курс продажу 16.500 рублёў за адзін амерыканскі долар. Зацiснутыя ў межах «валютнага калідора» (верхняя мяжа 13.100 рублёў за долар), банкі сталі неканкурэнтаздольнымі ў барацьбе за кліента: мяняла прапаноўвалі значна вышэйшы курс куплі валюты — да 14.500 рублёў за долар. Зразумела, людзі, якім былі патрэбны рублі, аддавалі перавагу абмену «з рук».

Такім чынам, кліентура абменных пунктаў, якая цярпліва чакала паступлення туды долараў, была пастаўлена ў складаныя ўмовы, гэта значыць, дарэмна марнавала свой час. Хоць, трэба прызнаць, камусьці і пашанцавала набыць валюту па афіцыйнаму курсу. Банкі ж працуюць па кароткай пазіцыі — валюта паступае ў пункты, яе прадаюць. Праўда, Нацбанк таксама не застаўся ўбаку ад праблем народа. Атака на камерцыйныя банкі, якіх ён паабяцаў штрафаваць у выпадку наяўнасці валюты ў абменным пункце і нежаданні прадаваць яе кліентам, лішні доказ гэтаму.

На сённяшні дзень сітуацыя на рынку наяўнай валюты пачала істотна мяняцца. Усплёск курса долара змяніўся яго падзеннем. Учора, напрыклад, на «чорным» рынку яго ўжо прадавалі па 14.000 рублёў за долар. Безумоўна, не апошнюю ролю тут адыграла і тое, што памяняўшы рублі на долары, многія вычарпалі ўжо свае магчымасці: няма рублёў на пакупку — няма і падстаў і далей галопам несціся ўверх «зялёнаму».

Што ж будзе далей з курсам долара? Усе з нецярплівасцю чакаюць устанаўлення новых межаў «валютнага калідора». Якімі яны будуць? Прагнозы самыя розныя. Нам жа падаецца самым рэальным той, які мы пачулі ад спецыяліста «Беларусбанка». Відавочна, межы «валютнага калідора» будуць узняты. Найбольш рэальныя лічбы, якімі абмяжуюць «наравісты бакс» (трэба ж уліцыць і жаданне нескампраметаваць уласны рубель) хутчэй за ўсё — 13.900-14.500 рублёў за долар, плюс-мінус нейкая нязначная сума. Чакаць засталося нядоўга.

Ігар ШЧУЧЭНКА.

# КІРАВАЦЬ ДЗЯРЖАВАЙ ПАВІННЫ МАРАЛЬНА ЧЫСТЫЯ ПРАФЕСІЯНАЛЫ

**Пастаянна дзеючы семінар кіруючых работнікаў дзяржаўных і цэнтральных органаў кіравання, судоў і пракуратуры адкрыўся 23 мая ў Мінску. Кіраўніцтва ім даручана ажыццяўляць кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаілу Мясніковічу.**

Вучоба кадраў будзе праводзіцца ў трэцюю сераду кожнага месяца. У праграму семінара ўключаны пытанні паглыблення інтэграцыі і ўсебаковага зближэння Беларусі з Расіяй, іншымі краінамі СНД. Дэталёва будуць вывучацца праблемы эканомікі, фінансаў, павышэння эфектыўнасці кіраўніцкай дзейнасці кіруючых кадраў, распарадчых органаў. Пасля завяршэння курса вучобы з кожным слухачом семінара адбудзецца гутарка.

На першыя занятки семінара прыбыў кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. Ён павіншаваў слухачоў з пачаткам вучобы, пажадаў плённай работы і выступіў перад імі з двухгадзіннай прамовай.

Гаворачы аб немагчымасці вяртання да мінулага, прэзідэнт разам з тым заклікаў прысутных не грэбаваць усім лепшым, што было набыта ранейшымі пакаленнямі. Ён спыніўся на неабходнасці стварэння стройнай сістэмы падрыхтоўкі і выхавання кадраў новага тыпу, якія павінны адпавядаць двум безумоўным патрабаванням: быць выдатнымі прафесіяналамі і маральна чыстымі людзьмі. Такімі крытэрыямі і кіравалася адміністрацыя, выстройваючы «прэзідэнцкую вертыкаль», не адхіляючы паслуг вопытных работнікаў ранейшых структур улады. На жаль, адзначыў Прэзідэнт, многія з іх пайшлі ў камерцыю або занялі пазіцыю чакання ў адносінах да новага ўрада. І ў гэтым іх памылка, бо няма нічога больш высакароднага, чым працаваць на карысць дзяржавы і яе народа.

«Ніхто яшчэ не абверг вядомую формулу «кадры вырашаюць усё», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, завяршаючы гэту тэму. Менавіта з яе, паводле слоў Прэзідэнта, вынікае неабходнасць стварэння стройнай сістэмы падрыхтоўкі і выхавання гэтых кадраў. А першыя занятки пастаянна дзеючага семінара з'яўляюцца пачаткам рэалізацыі задуманага.

Далей кіраўнік дзяржавы зрабіў падрабязны аналіз спраў у эканоміцы. На яго думку, дынаміка росту аб'ёмаў вытворчасці таварнай прадукцыі ў красавіку-маі дае падставы спадзявацца на дасягненне ўзроўню мінулага года і нават узняцца яшчэ вышэй. Разам з тым Прэзідэнт выказаў занепакоенасць затаварванасцю гатовай прадукцыяй шэрага прадпрыемстваў рэспублікі. Іх калектывам і кіраўнікам трэба скарачаць выдаткі вытворчасці і шукаць новыя рынкі збыту з улікам попыту і абнаўлення асартыменту прадукцыі. У якасці станоўчага прыкладу такой работы Аляксандр Лукашэнка назваў калектыў магілёўскага завода «Трансмаш» і шэрага іншых прадпрыемстваў рэспублікі. Кіраўніцтва гэтага прадпрыемства не толькі нарошчвае аб'ёмы вытворчасці, але і паспяхова асвойвае расійскія рынкі збыту. «Трансмаш» мае ў Маскве пастаянна дзеючую выстаўку тэхнікі, якую ахвотна набываюць будаўнічыя арганізацыі сталіцы суседняй дзяржавы. Цёпла адазваўся кіраўнік дзяржавы аб калектывах саўгаса імя Чкалава Горацкага і калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. Адначасова ён зрабіў сур'ёзны папрок у адрас кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, якія не спяшаюцца з абагульненнем і распаўсюджваннем перадавога вопыту.

Прэзідэнт Беларусі перасцярог у сваім выступленні, што не трэба спадзявацца на вынікі змены ўласнасці. Паводле яго слоў, небяспечна спадзявацца, што толькі прыватызацыя здольна рухаць эканоміку наперад. Пакуль што практыка сведчыць аб адваротным. Менавіта арэндныя і акцыяніраваныя прадпрыемствы знаходзяцца ў самым цяжкім становішчы. Аднак гэта не азначае, быццам Прэзідэнт і яго ўрад з'яўляюцца праціўнікамі рэфарміравання. Пацвярджаючы гэту думку, Аляксандр Лукашэнка падверг крытыцы адказных кіраўнікоў за правал праграмы прыватызацыі. Ён настойліва рэкамендаваў прысутным больш актыўна працаваць у калектывах, дабіваючыся асэнсаванага жадання людзей ажыццяўляць рэформы, пазбягаючы грубых памылак суседзяў у гэтай дзяржаўна важнай справе.

Не абышоў увагай Прэзідэнт таксама і пасяўную кампанію, назваўшы правільнымі дзеянні ўрада па аказанню дапамогі сялянам. Насуперак прагнозам апазіцыі, укладзеныя ў арганізацыю пасяўной сродкі не прывялі да калапсу эканомікі. Не было і росту інфляцыі, падзення курса нацыянальнай валюты. А вось у сельскай гаспадарцы закладзена дастаткова трывалая база будучага ўраджаю. Калі не здарыцца прыродных стыхій, можна разлічваць на важкія зборы расліннаводчай прадукцыі і стварэнне неабходных запасаў кармоў для жывёлагадоўлі.

У двухгадзінным выступленні кіраўнік дзяржавы закрануў практычна ўсе праблемы жыцця беларускага грамадства. Нямала добрых слоў сказаў ён і аб вельмі цяжкай рабоце журналістаў. Была і парада прадстаўнікам СМІ: праўдзіва асвятляючы падзеі, што адбываюцца ў рэспубліцы, журналістам трэба пранікнуцца клопатамі і трывогамі кіраўніцтва дзяржавы.

Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.

ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД БЕЛАРУСІ СФАРМІРАВАНЫ КАНЧАТКОВА

**Ва ўчарашнім нумары «Звязды» мы коратка паведамлялі аб тым, што Вярхоўны Савет Беларусі пачаў разгляд кадравых пытанняў: дэпутатам трэба было абраць двух членаў Канстытуцыйнага суда, чые пасады да гэтага часу заставаліся вакантнымі. 24 мая парламент працягнуў разгляд гэтага пытання. Але спачатку больш падрабязна пра падзеі дня папярэдняга.**

Як вядома, абмеркаванню кандыдатур на сесii папярэднічала пэўная работа камісій па заканадаўству і па дзяржаўнаму будаўніцтву. Да адбору юрыстаў, якія маглі б пазмагацца за гонар быць суддзёй Канстытуцыйнага суда, былі прыцягнуты Акадэмія навук Беларусі, міністэрствы ўнутраных спраў і юстыцыі, Пракуратура Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны і Вышэйшы гаспадарчы суды, іншыя ведамствы. Па папярэдніх рэкамендацыях было адабрана восем чалавек, чые кандыдатуры і былі абмеркаваны на сумесным пасяджэнні парламенцкіх камісій. Але паколькі вылучэнне кандыдатур на пасады суддзяў КС — выключная прэрагатыва дэпутатаў Вярхоўнага Савета, то гэтая працэдура была праведзена па-новаму. У выніку было вылучана зноў восем кандыдатаў: Валерый Аляксандраў, Іван Басецкі, Дзмітрый Булахаў, Аляксандр Вашкевіч, Павел Знавец, Мікалай Сільчанка, Аляксандр Тарасаў і Міхаіл Чудакоў. Праўда, сп. Аляксандраў зняў сваю кандыдатуру. Мы ўжо паведамлялі і пра інцыдэнт, які адбыўся з фракцыяй «Згода». Дарэчы, учора, зразумеўшы памылковасць сваіх паводзін і ўбачыўшы рэакцыю сваіх калег па парламенту, «згодаўцы» спрабавалі апраўдацца і даказвалі, што іх не так зразумелі.

Пазаўчора вечарам і ўчора раніцай кандыдаты, за выключэннем сп. Тарасава, які не змог прыехаць на сесію з Віцебска, прадставілі свае

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# У добры шлях, беларускі «Форд»

**Пазаўчора нарэшце падпісана пагадненне аб стварэнні сумеснага прадпрыемства па выпуску легкавых аўтамабіляў «Форд», якое будзе размешчана ў Апчаку пад Мінскам (нагадаем: некалькі месяцаў назад у сродках масавай інфармацыі, у тым ліку ў нашай газеце, паведамлялася аб тэрытарыяльнай спрэчцы вакол адпаведнай пляцоўкі ў Апчаку з «даўгабудам» на ёй, якая належыць Мінскаму трактарнаму заводу).**

Пагадненне падпісалі ўрад рэспублікі, «Форд мотар компані» і фірма «Лада-ОМС» (дылер «Форда» ў Беларусі) з размеркаванымі, адпаведна, долямі: 26 працэнтаў, 51 і 23 працэнты. Новая кампанія, якая атрымала назву «Форд Юніён», будзе збіраць перспектыўныя, нядаўна асвоеныя мадэлі «Форд Транзіт» і «Форд Эскорт». Першапачатковыя інвестыцыі ў новую вытворчасць, што напачатку будзе пераважна зборачнай, складуць каля 20 мільёнаў долараў. Першыя аўтамабілі плануецца выпусціць у трэцім квартале наступнага года. У першы поўны год сваёй вытворчай дзейнасці кампанія намячае сабраць 6000 «фордаў». У Беларусі мяркуецца рэалізоўваць адну пятую частку аўтамабіляў.



*Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустракаецца з выканаўчым віцэ-прэзідэнтам амерыканскай кампаніі «Форд» Уэйнам Букерам.*



З нагоды падпісання гэтага пагаднення ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя, у якой прыняў удзел прэм'ер рэспублікі М. Чыгір, пасол ЗША ў Беларусі Кенет Яловіц, віцэ-прэзідэнт кампаніі «Форд» Уэйн Букер, генеральны дырэктар СП «Лада-ОМС» А. Ваганаў і іншыя. Выступаючы на прэс-канферэнцыі, М. Чыгір падкрэсліў: «Форд» — гэта першая кампанія, якая ўносіць буйныя інвестыцыі ў нашу эканоміку (мяркуецца, што ўсяго на першым і другім этапах будзе ўнесена інвестыцый на суму каля 300 мільёнаў долараў). На думку прэм'ера, пасля гэтага падпісання актывізуюць сваю дзейнасць на тэрыторыі рэспублікі і іншыя замежныя фірмы, якія супрацоўнічаюць з «Фордам». Гэта важна для нашай эканомікі, для росту дабрабыту нашых грамадзян.




Кенет Яловіц зазначыў, што гэты інвестыцыйны праект выгадны для абодвух бакоў. У прыватнасці, яго выгаднасць для амерыканскага боку ў тым, што ён будзе садзейнічаць прасоўванню на рынкі СНД. Кенет Яловіц выказаў надзею, што Беларусь будзе рухацца наперад па шляху рэформаў, што на яе тэрыторыі будуць створаны роўныя спрыяльныя ўмовы гульні з тым, каб набіралі моц і замежныя, і айчынныя прыватныя прадпрыемствы. Ён таксама зазначыў: у амерыканскіх бізнесменаў ёсць цікавасць да Беларусі, важная ўмова для прыцягнення інвестыцый — стварэнне спрыяльнага інвестыцыйнага клімату.

Што канкрэтна дае праект Беларусі?

Па словах А. Ваганава, па-першае, новыя рабочыя месцы (да 500 рабочых месцаў на першым этапе, непасрэдна на зборачнай вытворчасці, плюс да 20 «дапаможных» рабочых месцаў на кожнае асноўнае); па-другое, буйнейшыя інвестыцыі; па-трэцяе, перадавыя тэхналогіі; па-чацвёртае, прыток валюты; па-пятае, умацаванне міжнароднай рэпутацыі Беларусі (фордаўскі праект, па думку А. Ваганава, павінен змяніць яе далёка не бліскучы рэйтынг); па-шостае, «для беларускіх прадпрымальнікаў — гэта важнейшы прэцэдэнт і свайго роду сімвал»...

Як прагучала на прэс-канферэнцыі ў адказ на пытанні, прыкладна праз два тыдні павінен пачацца набор рабочых будаўнічых спецыяльнасцей — 600—900 чалавек, а ўвосень — набор на канвеер, прычым з першапачатковым абучэннем у ЗША. Цана «фордаў» пакуль невядомая.

Як «разышліся» з Мінскім трактарным заводам (нагадаем аб пляцоўцы ў Апчаку)?

«Мірным шляхам». Пры гэтым урад мае намер аказаць падтрымку МТЗ у сувязі з пераносам некаторых яго аб'ектаў.

Яшчэ адно пытанне было зададзена наконт юрыдычнага статусу новай кампаніі ў сувязі з прыпыненнай у рэспубліцы рэгістрацыяй новых юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы...

Вядома ж, гэта не стане перашкодай для рэгістрацыі новай кампаніі, і не варта чакаць ёй ніякіх перашкод увогуле. Тым не менш, пытанне гэта, якое мае больш шырокі падтэкст, — надзвычай цікавае. І актуальнае.

Іван БАРАНОЎСКІ.

**На здымках:** «Форд Эскорт» і «Форд Транзіт», якія будуць выпускацца ў Беларусі.

# РОЗГАЛАС

## РАБОТНІКАМ ХІМІЧНАЙ І НАФТАХІМІЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

***Сардэчна віншую рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых прадпрыемстваў і арганізацый хімічнага комплексу рэспублікі з прафесіянальным святам — Днём хіміка.***

*Хімічная галіна займае важнае месца ў эканоміцы нашай дзяржавы. Ад яе поспехаў у многім залежыць устойлівая работа лёгкай прамысловасці і машынабудавання, сельскай гаспадаркі і будаўнічага комплексу, іншых галін. Шырока выкарыстоўваецца ваша прадукцыя ў быце і штодзённым жыцці. Вядома яна таксама далёка за межамі краіны.*

*Хімікамі нямала робіцца для стабілізацыі работы народнай гаспадаркі, павышэння эфектыўнасці вытворчасці і далейшага паступальнага развіцця хімічнага комплексу рэспублікі. Паспяхова рэалізуюцца праграмы тэхнічнага пераўзбраення галіны, якія забяспечваюць выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі на аснове сучасных тэхналогій.*

*Урад перакананы, што работнікі галіны і ў далейшым будуць дастойна вырашаць задачы, што стаяць перад імі.*

*У дзень вашага прафесіянальнага свята жадаю добрага здароўя, шчасця і дабрабыту вам і вашым сем'ям, поспехаў у нялёгкай паўсядзённай працы.*

**М.ЧЫГІР,**
**прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь.**

## КАТАСТРОФА Ў НАЧНЫМ НЕБЕ

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», у чацвер каля 11 гадзін вечара на аэрадроме Баранавіч адбылася катастрофа ваеннага самалёта.**

У прэс-службе Міністэрства абароны Беларусі гэту інфармацыю пацвердзілі: 23 мая ў 22 гадзіны 52 хвіліны падчас выканання начных палётаў разбіўся самалёт СУ-27П. Лётчык, падпалкоўнік Уладзімір Карват, загінуў. Катастрофа адбылася ў зоне выканання палёту. На зямлі разбурэнняў і ахвяр няма. Гаварыць аб прычынах аварыі можна будзе толькі пасля расследавання (дэшыфрацыі плёнак з перамовамі пілота, даследавання месца падзення, рэштак машыны і інш.), якім і займаецца спецыяльна створаная камісія на чале з намеснікам міністра абароны генерал-маёрам Алегам Яцкевічам.

**Сяргей ПРОТАС.**

## СПРАВУ, ПАЧАТУЮ КІРЫЛАМ І МЯФОДЗІЕМ, ПРАЦЯГВАЕ «ЗАЛАТЫ ВІЦЯЗЬ»

**Увесь славянскі свет адзначае 24 мая свята славянскага пісьменства і культуры. У Мінску цэнтрам урачыстасцей стаў Свята-Духаў кафедральны сабор, дзе прайшла літургія ў памяць аб роўнаапостальных Кірылу і Мяфодзію. Яе правеў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

Акрамя мінчан, у храм прыйшлі і госці пятага міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь», якія з'ехаліся ў Мінск з 19 краін свету. Дэвіз жа гэтага кінафоруму -- «За маральныя і хрысціянскія ідэалы. За ўзвышэнне душы чалавека» -- поўнасцю адпавядае духу свята славян.

Пасля літургіі ўдзельнікі ўрачыстасцей прайшлі Хрэсным ходам па вуліцах беларускай сталіцы. Яны ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі, устаноўленай у гонар Кірылы і Мяфодзія. Ля месца, дзе ў XI стагоддзі стаяў праваслаўны храм, быў адпраўлены малебен і прайшоў мітынг, прысвечаны Дню славянскага пісьменства і культуры і кінафестывалю «Залаты віцязь».

З прывітальнымі словамі да гасцей кінафоруму звярнуліся міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі, прэзідэнт «Залатога віцязя» Мікалай Бурляеў, намеснік старшыні Мінгарвыканкома Ігар Зелянкевіч. На мітынгу выступілі таксама і прадстаўнікі кінематаграфічных дэлегацый розных краін.

У гэты ж дзень у канцэртнай зале «Мінск» адбылося ўрачыстае адкрыццё пятага міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты віцязь», у якім прыняў удзел Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД БЕЛАРУСІ СФАРМІРАВАНЫ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

пазіцыі і бачанне ролі Канстытуцыйнага суда ў нашым грамадстве і адказалі на пытанні дэпутатаў. Рэйтынгавае галасаванне, якое павінна было вызначыць два прозвішчы для ўнясення ў бюлетэнь для тайнага галасавання, «ашчаслівіла» Аляксандра Вашкевіча і Міхаіла Чудакова. Яны набралі адпаведна 114 і 108 галасоў парламентарыяў. Астатнія кандыдаты выглядалі на гэтым фоне даволі сціпла: Басецкага падтрымалі 64 чалавекі, Булахава — 40, Знаўца — 33, Сільчанку — 66, Тарасава — 25. Асабліва нечакана нізкім аказаўся рэйтынг Дзмітрыя Булахава, які, як вядома, вылучаўся на пасаду члена Канстытуцыйнага суда не першы раз і з'яўляецца даволі вядомым у грамадстве юрыстам у параўнанні з астатнімі кандыдатамі. А нечакана высокім аказаўся рэйтынг Паўла Знаўца, вылучэнне якога можна было расцэньваць не інакш як спробу сіл.

Тайнае галасаванне, якое праводзілася, такім чынам, па кандыдатурах А. Вашкевіча і М. Чудакова, аказалася станоўчым для абодвух. Першы атрымаў падтрымку 108 дэпутатаў, другі — 114 . Прыняло ўдзел у галасаванні 156 парламентарыяў.

Акрамя гэтага, на сесіі былі ратыфікаваны два міжурадавыя пагадненні аб паветраных зносінах, якія Рэспубліка Беларусь заключыла з Сірыяй і Арменіяй. Паспрабавалі вярнуцца дэпутаты і да ўнясення змяненняў у Закон «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь». Нагадаю, што апошні раз яны «забуксавалі» на папраўках, якія датычыліся ўзаконення фракцый (дэпутацкіх аб'яднанняў) парламента. Аднак і ўчора рух наперад у вырашэнні гэтага пытання аказаўся амаль незаўважным.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## АПОШНЯЯ ПРЫКІДКА ПЕРАД БІТВАЙ СА ШВЕДАМІ

**У панядзелак Нацыянальная зборная Беларусі па футболу правядзе таварыскі матч з камандай Азербайджана. Гульня пройдзе у Маладзечне і, безумоўна, стане своеасаблівай рэпетыцыяй перад адборачным матчам чэмпіянату свету-98, які пройдзе 1 чэрвеня ў Стакгольме з нацыянальнай зборнай Швецыі.**

Галоўны трэнер беларускай каманды Сяргей Баброўскі плануе прыцягнуць для падрыхтоўкі ў зборнай 18 футбалістаў, якія застануцца на зборах у Стайках да ад'езду ў Швецыю.

Варатары: Валерый Шанталосаў («Балтыка», Расія), Андрэй Сацункевіч («Лакаматыў», Ніжні Ноўгарад, Расія).

Палявыя ігракі: Аляксандр Тайкоў («Макабі», Ізраіль); Сяргей Гурэнка («Лакаматыў», Масква), Сяргей Штанюк, Эрык Яхімовіч (абодва -- «Дынама», Масква), Павел Раднёнак, Юрый Малееў (абодва -- «Атака-Аўра», Мінск), Аляксандр Хацкевіч, Валянцін Бялькевіч, Уладзімір Макоўскі, Пётр Качура (усе -- «Дынама», Мінск), Аляксандр Кульчы (МВКЦ, Мазыр), Юрый Вяргейчык («Моленбек», Бельгія), Міраслаў Рамашчанка («Уралмаш», Расія), Васіль Баранаў («Балтыка»), Аляксандр Чайка («Днепр», Магілёў), Яўген Кашанцаў («Макабі»).

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**АКТЫЎНАСЦЬ БАЕВІКОЎ ЗНІЗІЛАСЯ**

Актыўнасць баевікоў у Чачні значна знізілася. Пазіцыі федэральных войскаў за апошні час былі абстраляны ўсяго 8 разоў. Даных пра страты бакоў пакуль няма. Зніжэнне актыўнасці баевікоў прадстаўнікі камандавання тлумачаць тым, што іх асноўныя сілы сканцэнтраваны ў раёне Бамута, дзе ўчора ўвесь дзень працягваліся баі.

**СУСТРЭЛІСЯ ДВА ПАРОМЫ...**

Каля сотні чалавек зніклі без вестак, многія, напэўна, патанулі ў выніку сутыкнення двух паромаў на рацэ Джамуна ў Бангладэш. Трагедыя адбылася ў чацвер ноччу. На борце аднаго судна знаходзіліся 150 чалавек, а другое перавозіла аўтамабілі. Удалося выратаваць каля 50 чалавек, большасць з іх змешчана ў шпіталь.

**У ПАЎНОЧНАЙ КАРЭІ ПАЧАЎСЯ ГОЛАД**

Злучаныя Штаты Амерыкі выступілі з новым зваротам да сусветнай супольнасці аб скарачэнні запасаў харчавання ў Паўночнай Карэі і папярэджаннем аб магчымым голадзе ў гэтай краіне. Прадстаўнікі ЗША, якія вярнуліся з гэтай краіны, паведамляюць, што на ўласныя вочы бачылі пакуты дзяцей ад голаду. Сяляне харчуюцца лісцем і карэннем дрэў.

**КАМУНІСТЫ ПАТРАБУЮЦЬ КРЫМІНАЛЬНАЙ АДКАЗНАСЦІ ЖУРНАЛІСТА**

Старшыня расійскай Дзярждумы Селязнёў заклікаў учора прыцягнуць да крымінальнай адказнасці журналіста гандлёвага дома «Камерсант». Гэта звязана з тым, што на пасяджэнні Думы другі член камуністаў — Алег Шынкароў, расказаў дэпутатам пра інцыдэнт у памяшканні фракцыі кампартыі ўчора раніцай. Па заяве Шынкарова журналіст Уладзімір Кручкоў быў затрыманы пры спробе ўстанавіць гуказапісвальнае ўстройства ў памяшканні фракцыі КПРОР. Як заяўляе Шынкароў, журналіст спрабаваў падкупіць прыбіральшчыцу, якая яго заўважыла.

**БАРАЦЬБА ЗА ВЕДЫ З ДАПАМОГАЙ МЫШ'ЯКУ**

Дзве шасцікласніцы адной з амерыканскіх школ горада Сан-Бернардзіна арыштаваны па абвінавачанню ў спробе атручэння сваёй настаўніцы. На вачах усяго класа яны падсыпалі мыш'як у напой, які падчас урока звычайна піла 52-гадовая настаўніца. Яна б выпіла і атруту, калі б адзін з вучняў не папярэдзіў яе. Двое хлапчукоў, якія схавалі пачак з-пад атруты, прыцягнуты да следства як саўдзельнікі. Дакладны матыў спробы забойства пакуль не высветлены, аднак паліцыя лічыць, што справа хутчэй за ўсё ў тым, што юныя асобы проста не паспявалі па прадмету.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 слухаў Сяргей ПРОТАС.**

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Непаўналетнія арыштанты мараць трапіць у новую камеру, якая з'явілася нядаўна ў Ірбімскім СІЗО № 2, паведамілілі ва ўпраўленні выканання пакаранняў УУС Свярдлоўскай вобласці.

У былой цямніцы цяпер абсталявана вялікая тэлевізійная зала. Яна прызначана спецыяльна для малалетак. Глядзець «Санта-Барбару», іншыя серыялы і праграмы дазваляецца толькі самым дысцыплінаваным зняволеным. «Тэлекамера» — адзіная ў СІЗО, дзе ўсе хочуць сядзець як мага даўжэй.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

*Ці ёсць спосаб абяззброіць злачынны свет? У Панаме знайшлі такі спосаб і назвалі яго «зброя — за ежу». Ён просты, як усё геніяльнае: нехта здае ў сталічную мэрыю пісталет або аўтамат, а яму тут жа выдаюць... талоны на харчаванне. І нясуць — і аўтаматы, і кулямёты, і гранатамёты, і нават 40- і 90-міліметровыя ракеты. З лютага ўзровень злачыннасці ў двух самых небяспечных раёнах горада знізіўся на 40 працэнтаў.*

**«Труд».**

### КРЫМІНАЛ

## БЕЛАРУСКІЯ ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКІ СТВАРЫЛІ СЯМЕЙНУЮ ДЫНАСТЫЮ

***З ЧАСОЎ ВЫНАХОДНІЦТВА грашовых знакаў як сродку плацяжу іх не толькі зараблялі, але і падраблялі. Фальшываманетніцтва здаўна лічылася адным з самых небяспечных відаў злачынства, бо яго ахвярамі маглі стаць як асобныя грамадзяне, так і цэлыя дзяржавы. Менавіта таму да фальшываманетчыкаў прымяняліся і прымяняюцца самыя суровыя меры пакарання. На Беларусі — таксама.***

***Тым не менш, апошнім часам у нашай краіне назіраецца імклівы рост злачынстваў, звязаных з подробкай і збытам несапраўдных грошай.***

***Напрыклад, у 1991 годзе на Беларусі былі зафіксаваны ўсяго 3 факты збыту фальшывых грошай, у 1992 годзе — 129, у 1993-м — 995, у 1994-м — 1784, у 1995-м — 2302, а за чатыры месяцы гэтага года ўжо зарэгістраваны 763 злачынствы, звязаныя з падробкай грошай.***

***Прааналізаваць сітуацыю з падробкай і збытам фальшывых грашовых знакаў на Беларусі наш карэспандэнт папрасіў старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС краіны Рыгора ШВАЙКО.***

**— Рыгор Іванавіч, грашовым адзінкам якіх краін зараз аддаюць перавагу беларускія фальшываманетчыкі?**

— Густ у айчынных фальшываманетчыкаў не мяняецца на працягу апошніх пяці гадоў. Як і ва ўсім грамадстве, у асяроддзі тых, хто падрабляе грошы, «вельмі папулярны» долар ЗША. За чатыры месяцы бягучага года намі зарэгістравана 546 фактаў збыту падробленых долараў. На другім месцы расійскі рубель — 102 факты, нямецкія маркі — 44 факты, беларускія рублі — усяго 8 фактаў. Прычыны «папулярнасці» сярод фальшываманетчыкаў долара ЗША і «непапулярнасці» беларускага рубля тлумачацца ўстойлівасцю амерыканскай валюты і няўстойлівасцю нашай. Фальшывыя дойчмаркі сустракаюцца не так часта таму, што гэтыя грошы маюць вельмі высокую ступень абароны ад падробкі.

Дарэчы, на тэрыторыі Беларусі пакуль не выяўлены ні адзін факт збыту фальшывых стодоларавых купюр новага ўзору. Гэта таксама тлумачыцца іх больш дасканалай ступенню абароны ад падробкі.

Асобная гаворка пра расійскія рублі. Як сведчаць факты збыту падробленых пяцідзесяцітысячных купюр Цэнтральнага банка Расіі, гэтыя фальшывыя грошы па-ранейшаму вырабляюцца друкарскім спосабам за межамі Беларусі і завозяцца да нас. Па нашых звестках, падпольная «фабрыка» па выпуску фальшывых расійскіх рублёў вось ужо некалькі гадоў функцыянуе на тэрыторыі Польшчы.

**— І што перашкаджае выявіць гэтую друкарню?**

— Гэтая праблема павінна больш хваляваць праваахоўныя органы Расіі, паколькі іх дзяржаве наносіцца найвялікшы ўрон. Але чамусьці паміж адпаведнымі расійскімі і польскімі структурамі да гэтага часу не наладжаны цесны кантакт і не аб'яднаны намаганні па ліквідацыі польскага «фальшываманетнага» двара. Мы неяк спрабавалі выступіць у гэтай справе пасрэднікамі, але ўсё скончылася безвынікова.

**— У якіх месцах зараз найчасцей дзейнічаюць фальшываманетчыкі?**

— Месцы збыту фальшывых грошай самыя розныя. Напрыклад, у Гродне двое вайскоўцаў-пагранічнікаў збывалі, і не без поспеху, фальшывая пяцідзесяцітысячныя расійскія рублі ў абменным пункце. Якасць гэтых грошай (па нашых звестках, вырабленых друкарскім спосабам на тэрыторыі Польшчы) была настолькі высокая, што падробку выявілі толькі ў банку. У збытчыкаў было канфіскавана каля 400 купюр вартасцю 50 тысяч расійскіх рублёў.

Нярэдка фальшываманетчыкі спрабуюць разлічыцца несапраўднымі доларамі пры пакупцы дарагіх тавараў. Не так даўно такую групу супрацоўнікі міліцыі затрымалі на аўтамабільным рынку ў Мінску. Там двое жыхароў Казані спрабавалі за фальшывыя долары набыць аўтамабіль.

Апошнім часам, у сувязі з дэфіцытам замежнай валюты ў абменных пунктах, ахвярамі фальшываманетчыкаў становяцца грамадзяне, якія спрабуюць абмяняць беларускія рублі на долары.

**— Што трэба рабіць чалавеку у выпадку, калі ён заўважыць, што яго ашукалі фальшываманетчыкі?**

— Найперш, я хацеў бы параіць некалькі мераў перасцярогі. Ідэальным было б, вядома, не праводзіць ніякія валютныя аперацыі з прыватнымі асобамі. Але паколькі ў афіцыйных абменных пунктах валюту набыць зараз амаль немагчыма, то іншым разам людзі вымушаны карыстацца паслугамі «прыватных мянял». Тут трэба быць вельмі пільным. Не спяшацца, дасканала абследаваць купюру, якую вам спрабуюць прадаць. Пра спосабы адрознення фальшывых грошай ад сапраўдных ужо сказана шмат, амаль усе іх ведаюць. Калі ўзнікаюць сумненні, падыдзіце у абменны пункт ці ў іншае месца, дзе можна праверыць банкноты.

Далей. Не сакрэт, што амаль усе здзелкі па куплі-продажу дарагіх рэчаў па-за межамі крамаў адбываюцца за валюту, найчасцей за долары. Апошнім часам фальшываманетчыкі вельмі часта знаходзяць сваіх «ахвяр» па рэкламных аб'явах. Схема ўчынення злачынства ў такіх выпадках прыкладна наступная.

Прачытаўшы аб'яву аб продажы якой-небудзь каштоўнай рэчы, злачынцы наведваюцца да прадаўца. Дамовіўшыся, плацяць яму пэўную суму, прычым сапраўднымі грашыма, а потым раптоўна мяняюць сваё рашэнне і патрабуюць грошы назад. І ўжо перад самым адыходам зноў вырашаюць набыць рэч, але плацяць ужо фальшывымі грашыма. Збянтэжаны прадавец, які перад гэтым ужо дасканала праверыў валюту на сапраўднасць, і не падазрае, што купюры падмянілі.

Таму, паважаныя суграмадзяне, зноў жа, будзьце пільнымі і ўважлівымі, старайцеся запомніць прыметы такіх «пакупнікоў».

А калі вас усё ж ашукалі, неадкладна звяртайцеся ў праваахоўныя органы. Чым хутчэй вы гэта зробіце, тым больш у міліцыі шанцаў затрымаць злачынцаў.

**— Дарэчы, наколькі паспяхова ў нашай краіне вядзецца барацьба з фальшываманетчыкамі?**

— З усіх 763 злачынстваў, звязаных з падробкай валюты, нам удалося раскрыць 64. Прычым намі выяўлена і абясшкоджана 13 арганізаваных груп, якія займаліся падробкай і збытам фальшывых грошай.

Наогул, фальшываманетная «мафія» — адна з самых арганізаваных у свеце. Беларускія фальшываманетчыкі маюць трывалыя сувязі са сваімі «калегамі» за мяжой. Таму змагацца з гэтым відам злачынства даволі няпроста.

Больш таго, у Бабруйску намі выяўлена цэлая сям'я з Мозырскага раёна, якая на працягу апошніх двух гадоў займалася збытам фальшывых долараў амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі. А гэта ўжо ці не самае яскравае сведчанне маральнай дэградацыі грамадства.

**Гутарыў Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### СЁННЯ

**Першая квадра 25 мая.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр.** Епіфанія, Германа, Ермагена
**К.** Касцёла, Рыгора

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі, пераважна па паўночнаму захаду, кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску і Гродне — 16—18, у Мінску і Магілёве — 17—19, Брэсце — 18—20, Гомелі — 19—21 градус цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 26 мая — на большай частцы тэрыторыі, 27-га — месцамі пройдуць дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 8—13, удзень — 13—18, па паўднёваму ўсходу — да 23 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НА 25-26 МАЯ

У бліжэйшыя двое сутак надвор'е будзе вызначацца няўтойлівым характарам атмасферных працэсаў, што прывядзе да ваганняў значэнняў асноўных метэаэлементаў і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых з сардэчна-сасудзістай паталогіяй, захворваннямі дыхальнай сістэмы, апорна-рухальнага апарата.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца панізіць фізічную актыўнасць, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, уключаючы заспакаяльныя сродкі, полівітаміны.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*СКАНДАЛЫ*

# КАМЕРСАНТЫ ЗАБАСТАВАЛІ

***Акцыі пратэсту ўжо не здзіўляюць. Удзельнічаюць у іх звычайна тыя, каго раней называлі рабочым класам, — людзі ад станка і плуга, а таксама іншыя катэгорыі абяздоленых грамадзян. Аднак традыцыя паламана. Здарылася гэта ў Магілёве, дзе забаставалі — хто б вы думалі? — прадпрымальнікі. Тыя самыя, каго лічаць «новымі» і якія атаясамліваюцца ў грамадскай свядомасці з высоказабяспечанай буржуазіяй.***

З ДАВАЛАСЯ Б, ШТО Ж ІМ ТРЭБА? Няўжо і прадстаўнікоў прыватнага бізнесу дастала гаротнае жыццё?

Аказваецца, так. Камерсанты ўвесь май толькі і робяць, што мітынгуюць і пішуць петыцыі старшыні гарвыканкома Дзмітрыю Сівіцкаму і іншым афіцыйным асобам. Сутнасць гэтых зваротаў адна: умовы для прадпрымальніцкай дзейнасці ў Магілёве такія, што на ёй трэба ставіць крыж. Паводле меркавання віцэ-прэзідэнта Беларускага саюза падаткаплацельшчыкаў Юрыя Падольскага, вінаватыя ў гэтым гарадскія ўлады, якія, як нідзе ў рэспубліцы, давялі становішча да абсурду. У адкрытым лісце мэру, пад якім 139 подпісаў, прадпрымальнікі наракаюць на неразумнае рашэнне, прынятае кулуарна, аб зносе камерцыйных кіёскаў на Пушкінскім праспекце з наступнай заменай іх на польскія і баранавіцкія архітэктурныя формы. Кіёскі, скардзяцца камерсанты, і без таго на мяжы банкруцтва з-за рэзкага зніжэння тавараабароту, выкліканага катастрафічным падзеннем даходаў грамадзян. З лічбамі ў руках пакрыўджаныя даводзяць, што яны такія ж падаткаплацельшчыкі, як і іншыя суб'екты гаспадарання, і пазбаўляць іх работы толькі таму, што яны не па сваёй віне згубілі абаротныя сродкі гэтак жа, як і дзяржаўныя прадпрыемствы, — значыць папаўняць армію беспрацоўных. Да таго ж павільёны баранавіцкага тыпу, разлічаныя на грамадскае харчаванне, у горадзе ўжо ёсць, не выкарыстоўваюцца па прызначэнню, бо іх трэба падключыць да водапровада і каналізацыі, а гэта праблематычна. Што датычыць польскага варыянта збудаванняў, дзе пераважае шкло, дык на іх установку спатрэбіцца дазвол пазаведамаснай аховы, інакш не атрымаеш ліцэнзіі, што зноў жа не так проста. Вось і думаюць бізнесмены: ці не вядзе гарвыканком свядомую палітыку на знішчэнне прыватнага гандлю?

Падліло масла ў агонь з'яўленне ў дзяржаўных магазінах славутых замежных бляшанак са спіртнымі напоямі — «Тройкі» і «Асланава», за якія яшчэ нядаўна дзяўблі камерсантаў і ў прэсе, і ў калідорах выканаўчай улады. Маўляў, атруцілі народ таннай сівухай, выробленай на тэхнічнай аснове, і на падставе ў тым ліку і гэтага козыра забаранілі ім гандляваць гарэлкай і тытунём. Калі ж шуміха прайшла, народ зноў прыняўся за бляшанкі, якія пасляхова перакачавалі ў дзяржсектар. Купляюць, праўда, цяпер па цане куды вышэйшай.

Зразумець кіраўніцтва горада можна. Яму і аб культуры клапаціцца належыць, і аб бюджэце, які сістэматычна не выконваецца. Як тут не прыбраць да рук такую прыбытковую манапольку, як гандаль спіртным, а заадно і курыва.

Толькі ці так гэта на самай справе, як уяўляецца бацькам горада? Нішу, адабраную ў камерсантаў, імгненна запоўніў бабульчын сервіс, прадстаўнікі якога спачатку дзяжураць ля магазінаў, оптам скупляючы напоі і тытунёвыя вырабы, а потым перапрадаюць з «наварам», ад якога не перападае ў бюджэт ніводнай капейкі. Пакутуюць жа звычайна спажыўцы, бо ў дзяржгандлі то выхадны, то няма нічога, дзякуючы спрытным пенсіянеркам, якія шляхам адкрытай спекуляцыі дабаўляюць да пражытачнага мінімуму недададзенае дзяржавай.

Між тым прадпрымальнікі падлічылі, што на забароненай у адносінах да іх меры бюджэт горада губляе 40 працэнтаў даходнай часткі. Абурае іх і тое, што плаціць трэба і за арэнду, і за дакументы, і за абслугоўванне кантралёраў, а на «снікерсах» і прэзерватывах шмат не заробіш: тут хоць бы пакрыць выдаткі.

Тры дні ў Магілёве не працавалі камерцыйныя кіёскі, бо папярэдняе пікетаванне ля Дома Саветаў выніку не дало. Камерсанты чакаюць адказу на свае патрабаванні і прапановы, якія накіравалі яны і ў Вярхоўны Савет.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ПУШЫСТАЯ ВАЛЮТА

***Часцей за ўсё блізкаму чалавеку дораць кветкі, футравыя цацкі. Кветкі прадаюцца ўсюды і не вельмі шмат каштуюць, а вось цацак гэтых менш, ды і цана іх немалая. Аднак жа хочацца, каб якасць і прыгажосць іх прыемна цешылі вока.***

А ДНА З БУЙНЕЙШЫХ У ЕЎРОПЕ футравых фабрык знаходзіцца ў Жлобіне — горадзе з даволі вялікай чыгуначнай станцыяй. Тут, на вакзале, гандаль цацкамі, тапачкамі і падушкамі з футра набыў шырокі размах. Штодзённа 50—70 чалавек з таварам у руках таўкуцца перад цягнікамі, спадзеючыся нешта зарабіць. Тут і дарослыя, і дзеці, і пенсіянеры.

Пакуль чакаюць які-небудзь поезд, усё ціха і спакойна, але ж як толькі пачуецца гудок — на пероне пачынаецца ажыўленне. Людзі ўжо ведаюць, што з найбольшай выгадай свой тавар можна прадаць пасажырам цягнікоў далёкага кіравання. Каля кожнага такога цягніка імгненна ўзнікаюць натоўпы гандляроў. Сведкам вось якога выпадку мне давялося стаць. Хлопчык гадоў 12 аддаў цацку нейкаму дзядзьку з ужо адыходзячага цягніка. Састаў рушыўся, хлопчык спяшаецца за адчыненым акном, грошай няма. «Ашукаў», — уздыхнуўшы, сказала нейкая бабулька. Але ж не, у наступны момант з акна паказалася рука мужчыны з грашыма. І ў такой справе не абыходзіцца без рызыкі.

А вось аб тым, наколькі прыбытковы гэты занятак і якія цяжкасці даводзіцца перамагаць, я пагаварыў з Ігарам — былым студэнтам геафака БДУ, які цяпер гандлюе тут вельмі прыгожымі зайцамі і сабачкамі з футра. Ён расказаў, што самым «грашавітым» у іх лічыцца поезд «Сімферопаль—Рыга», ды і плацяць з яго адразу валютай. Цацкі ж людзі шыюць самі з купленага ў магазіне футра. Фабрыка для гэтай мэты не прызначана, але ж цэх па вытворчасці футравых вырабаў ёсць. Імі (вырабамі) рабочым і зарплату часам выдаюць, а тыя прадаюць іх ужо тут. Дарэчы, у пачатку 90-х гадоў на гэтым рабілі кватэры і машыны, цяпер жа у сярэднім ад 50 да 100 долараў у месяц зарабляюць. Некаторыя ж, у пошуках большага прыбытку, едуць гандляваць у іншыя гарады, у Расію, ездзяць і ў Польшчу, але цяпер ужо менш. Падобны «рынак» ёсць і ў Гомелі, але футра купляюць усё ж тут.

Тавар свой людзі прадаюць у асноўным за беларускія і расійскія рублі, але таксама бываюць і бартэрныя здзелкі. Мяняюць на ўсё: фарфоравыя вырабы, нажы, лёзы, шчоткі... Галоўнае — пагадненне паміж двума бакамі, якія ўступаюць у здзелку. А калі хто-небудзь знойдзе пакупніка, вакол яго адразу ж збіраецца яшчэ некалькі гандляроў. І людзі купляюць, бо рэчы сапраўды прыгожыя, даспадобы і дзецям і дарослым, а каштуюць значна танней, чым у магазіне. Часам здараюцца цікавыя выпадкі. Прыязджаюць, напрыклад, на жлобінскі вакзал украінцы і прадаюць ці мяняюць на цацкі сала, а мяккія вырабы потым прадаюць на радзіме. І ўсе задаволены. Праваднікі некаторых паяздоў таксама не разгубіліся. Яны робяць зусім проста. Прама з тамбура вагона прадаюць шампанскае, гарэлку, віно, цыгарэты, нешта яшчэ... Ці зноў жа мяняюць. Бутэлька «Савецкага шампанскага», напрыклад, у іх каштуе 10 тыс. «расійскіх», а тры бутэлькі гэтага напою цалкам можна памяняць на дзве прыгожыя футравыя падушкі па 35 тыс. «зайцоў».

Зразумела, што ўвесь гэты бізнес не без сваіх праблем. І вось адна з іх. Час ад часу гэты маленькі рынак разганяе міліцыя, а некаторых гандляроў і ў суд цягнуць, штрафы бяруць — не дазваляецца на пероне гандляваць. І ўсё ж «футравы» рынак стабільна працуе — трэба неяк выжываць ва ўмовах, якія стварае наша жыццё.

**Дзмітрый КАСТЭНКА.**

# НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫМІРАЕ НАВАТ АД ПЕПСІ

**«Стан здароўя дзіцячага насельніцтва па-ранейшаму не мае тэндэнцыі да паляпшэння», — такімі вось жахлівымі словамі пачынаецца даведка, выдадзеная за подпісам намесніка Галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Рэспублікі Беларусь сп. Жукоўскага. Падрыхтавана яна была да калегіі, якая праходзіла 15 мая ў Мінску і займалася вырашэннем пытання стану арганізацыі харчавання дзяцей і падлеткаў у навучальна-выхаваўчых установах.**

Яшчэ раней — у лютым-сакавіку дзяржгандальінспекцыяй Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь была праведзена праверка арганізацыі харчавання, якая паказала, што органамі адукацыі і кіраўніцтвам прадпрыемстваў грамадскага харчавання прымаюцца некаторыя меры па паляпшэнню харчавання навучэнцаў школ і іншых навучальных установ. У той жа час вялікую занепакоенасць выклікае той факт, што са 114 правераных прадпрыемстваў рознага роду парушэнні зафіксаваны ў 113! Неблагая лічба, праўда? Дапускаюцца і непаўнаважкія порцыі, і завышаны кошт, і няякасныя прадукты. Некаторыя нашы суайчыннікі імкнуцца зарабіць на дзіцячых снеданнях ды абедах. Так, у сярэдняй школе № 10 горада Брэста завышаліся цэны ў сярэднім на 100—300 рублёў на стравы, уключаныя ў комплексныя абеды, у тым ліку і бясплатныя, фінансуемыя з бюджэту. Работнікі сталовай Шчучынскага ПТВ № 198 сістэматычна недаўкладалі, а затым забіралі выручаныя такім чынам прадукты сабе. Так, за перыяд з 8 студзеня па 14 лютага гэтага года імі было ўкрадзена 755 літраў малака, ці 50,4 працэнта ад прадугледжанага нормай, і 22 кілаграмы тварагу (18 працэнтаў) — усяго на суму 3,6 мільёна рублёў. Нястача мясных паўфабрыкатаў склала тут 2,6 мільёнаў рублёў. Падобныя ж факты выяўлены і ў спецшколе № 14 для глухіх дзяцей Першамайскага раёна горада Мінска, ПТВ № 233 ПТП «Полацк», Баркелабаўскай СШ Быхаўскага раёна, СШ № 1 горада Слаўгарада ды іншых. На жаль, гэты спіс доўгі. Шмат яшчэ нячыстых на руку людзей, якія імкнуцца палепшыць свой дабрабыт за кошт самага святога і чыстага на зямлі — дзяцей. Яшчэ большае абурэнне выклікаюць пачвары (інакш не магу іх назваць), якія абкрадваюць калек. Так, у ходзе праверкі Гродзенскай школы-інтэрната для дзяцей, якія дрэнна бачаць (дырэктар Чарвякова), выяўлена незаконна спісаных за кошт завышэння нормаў харчавання аж 22,6 мільёна рублёў. І як гэтым грамадзянам той кавалак, што яны вырвалі з дзіцячых рук, у поперак горла не станавіўся?

Наогул жа ў 1995 годзе за парушэнні ў арганізацыі харчавання дзяцей ды падлеткаў органамі дзяржсаннагляду аштрафавана 3110 вінаватых, прыпынілася эксплуатацыя 517 харчблокаў. Здаецца, усё часцей мы губляем свае чалавечыя здольнасці і становімся падобнымі на бяздушныя камяні ці на жорсткіх металічных робатаў. Нараджаем дзяцей, каб квітнела поле жыцця, і адначасова асуджаем іх на выміранне. Таму што чужых дзяцей не бывае! І заплыўшая тлушчам паварыха, якая адразае кавалак кумпяка, каб аднесці яго дадому, не ў чужых крадзе, а ў сябе. Гэта ж замкнёная сістэма, грамадзяне.

Нашы дзеткі пастаўлены зараз ва ўмовы інтэксіфікацыі навучання — 29,8 працэнта гарадскіх школ займаюцца ў дзве змены, 24 школы — у тры. Рацыянальнае харчаванне ў такіх умовах з'яўляецца адным з важнейшых фактараў захавання здароўя дзяцей, іх гарманічнага развіцця. Аднак харчаванне дзяцей у нашай рэспубліцы не прыведзена ў адпаведнасць з «Нормамі фізіялагічных патрэб у харчовых рэчывах і энергіі для розных груп насельніцтва». У лепшым выпадку рацыёны школьнікаў утрымліваюць толькі палову неабходных для арганізма бялкоў, вітамінаў ды мінеральных рэчываў. Вітамінны статус кожнага чацвёртага з абследаваных дзяцей можа быць ацэнены як полігіпавітаміноз (недастатковасць болей чым па двух вітамінах). Харчаванне ў агульнаадукацыйных установах рэспублікі зараз мае толькі падтрымліваючы характар — адны вугляводы, не болей таго. Са студзеня 1996 года на патрэбы школьных сталовых выдзяляюцца датацыі з мясцовых бюджэтаў: у Магілёўскай вобласці — па 1000 рублёў на кожнага навучэнца, у Мінскай (акрамя Барысаўскага раёна) — 1200 рублёў, у Гродзенскай — 400—1000 рублёў. Аднак па выніках анкетавання школьнікаў Брэста, Пінска, Магілёва, Наваполацка і Мінскага раёна, праведзенага тэрытарыяльнымі органамі саннагляду, паказалі, што нерэгулярна харчуюцца каля 50 працэнтаў навучэнцаў, не снедаюць — 1,2—6 працэнтаў, поўны абед атрымліваюць каля 25 працэнтаў, не вячэраюць — 11—15 працэнтаў дзяцей. Мы самі забіваем будучыню — нацыя вымірае! Акрамя таго, што ў рэспубліцы пераважае смяротнасць над нараджальнасцю, дык яшчэ і тых, хто з'явіўся на свет, чакаюць усялякія захворванні. Амаль чвэрць усіх беларускіх дзяцей да 14 гадоў (23,5 працэнта) стаяць на дыспансерным уліку ў лячэбна-прафілактычных установах, сярод падлеткаў гэта лічба складае ўжо 31,4 працэнта. У параўнанні з 1991 годам на 20,1 працэнта ўзраслі захворванні з упершыню ўстаноўленым дыягназам сярод дзяцей да 14 гадоў, сярод падлеткаў — на 33,5 працэнта. Захворванні органаў стрававання ўзраслі на 21,2 і 73,4 працэнта адпаведна. Наступныя лічбы адлюстроўваюць дынаміку росту захворванняў ад першага да апошняга класаў: 49 працэнтаў навучэнцаў ужо пры паступленні ў школу маюць адхіленні ў стане здароўя і адносяцца да «групы рызыкі» (задумайцеся: палова нашых дзяцей. — М. Л.), а да моманту прыёму ў пятыя класы колькасць дзяцей з хранічнымі паталогіямі і функцыянальнымі парушэннямі складае 86,6 працэнта! Толькі ўявіце сабе: амаль 90 працэнтаў дзяцей хворыя — яскравы паказчык здароўя нацыі. А клапаціцца пра будучае трэба ўжо зараз, бо нашы ўнукі могуць памерці яшчэ ў калысцы, або зусім не нарадзіцца...

Калегія, што адбылася 15 мая, прыняла рашэнне, якое аб'ядноўвае сілы чатырох міністэрстваў — гандлю, адукацыі і навукі, аховы здароўя, міністэрства па надзвычайных сітуацыях і Белкаапсаюза ў чарговай спробе выратаваць ад вымірання нашу нацыю. Хіба ж гэта дрэнна? Дай Бог, каб толькі не засталося ўсё пустой паперкай, якую выкінуць у памыйнае вядро. А праблема так і застанецца нявырашанай.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...АДПАЧЫЦЬ У ПАРКУ

**Самым традыцыйным і любімым для ўсіх даўно стаў адпачынак ля тэлевізара, каля якога можна ад знямогі плюхнуцца ў крэсла і... «адключыцца». Але, пагадзіцеся, ад такога «адпачынку» таксама нядрэнна было б хоць зрэдку ды адпачыць. І вось калі такія «каштоўныя» думкі нас наведваюць, мы імкнёмся, вядома ж, у выратавальную прахалоду паркаў.**

Як ні сумна гэта канстатаваць, але нават у беларускай сталіцы паркаў адпачынку — кот наплакаў. Так што пытанне: «Куды пайсці, куды падацца?» тут зусім недарэчнае. Дарослым лепш накіравацца прама да «Чэлюскінцаў». І калі вам за шмат гадоў не надакучылі мясцовыя атракцыёны, то, вылажыўшы ўсяго 10 тыс. руб., вы зможаце паказытаць сабе нервы на «Супер-8», а калі атрыманых адчуванняў будзе недастаткова, можна вылажыць яшчэ 10—20 тыс. руб. за той жа «від транспарту». Абапіраючыся на ўласны вопыт, рызыкну сцвярджаць, што не меншай любоўю наведвальнікаў парку карыстаецца атракцыён «Аўтадром», што адлюстроўвае і яго цана — 8 тыс. руб. «Халі-Галі» і «Паратрупер» ацэньваюцца ў 5 тыс. руб. А цэны на дзіцячыя атракцыёны вагаюцца ў межах ад 3 да 4 тыс. рублёў. «Выпусціць пару» пасля прагулкі вы зможаце ў ціры, праўда, кожная эмацыянальная разрадка ў выглядзе аднаго стрэлу вам абыдзецца яшчэ ў 1 тыс. руб. Ну, а калі ўсё ж такі вас не хвалюе, наколькі стаў лягчэйшым ваш кашалёк, то ваш шчаслівы выраз твару ўсяго за 25 тыс. руб. можна захаваць на імгненным фота.

І ўсё ж такі выхад «на прыроду» сям'ёй — раскоша, даступная далёка не ўсім. З дзіцем жа лепш пайсці ў дзіцячы парк імя М. Горкага, бо ў гэтым выпадку такая прагулка — няхай не самае «бяскроўнае», але ж выйсце, таму што спакус для дарослых тут усё ж менш, а цэны на атракцыёны практычна тыя ж. Бадай, самай прыемнай навіной парка стала з'яўленне ў гэтым сезоне сямі новых італьянскіх атракцыёнаў, кошт якіх пасля наведвання парка Чэлюскінцаў ужо не здаецца такім страшным — 8—10 тыс. руб. за пасадку.

З'яўленне ў г. Мінску чэшскага «Лунапарка» стала для горада падзеяй, вартай увагі, але... не заўважанай практычна нікім. Ініцыятарам яго прыезду ў сталіцу стала дырэкцыя парка імя Горкага. Гэты перасоўны парк падарожнічаў як па тэрыторыі Еўропы (Італія, Югаславія, Польшча і інш.), так і па тэрыторыі былога Саюза. Але, прыехаўшы да нас, ён сутыкнуўся з шэрагам праблем і цяжкасцей. Яго знаходжанне — на перакрыжаванні пр-та Ракасоўскага і вуліцы Пляханава (мікрараён «Серабранка», насупраць універсама «Серабранка») — ніяк не назавеш удалым. Літаральна некалькіх дзён работы гасцям хапіла, каб зразумець цяжкае фінансавае становішча нашых людзей і пайсці ім насустрач: цэны на білеты былі зніжаны і сёння складаюць 7 (дзіцячыя атракцыёны)—10 (дарослыя) тысяч рублёў. Працуе парк штодзённа з 14 да 22 гадзін, па выхадных — з 11 да 23 гадзін.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## А Ў ТЫМ ПАКЕЦЕ...

Вялікія непрыемнасці напаткалі касіра Гомельскага тралейбуснага ўпраўлення М. Т. Пасля работы, вяртаючыся дадому, у пад'ездзе нейкі хлопец вырваў з яе рук цэлафанавы пакет. А там — дзённая выручка і нерэалізаваныя праязныя білеты — усяго на трыццаць мільёнаў рублёў. Незразумела, навошта было несці такую вялікую суму дадому.

## САМ СЯБЕ ПАДАРВАЎ

На трыццаць шостым годзе вырашыў развітацца з жыццём жыхар вёскі Слабада Лельчыцкага раёна, нідзе непрацуючы Л. Дзяцел. Смерць сабе ён выбраў страшэнную. Выйшаўшы ў поле за вёску, выбуховым рэчывам разарваў сябе на часткі. Раней мужчына працаваў у адной з геалагічных партый Мінска падрыўніком.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ПОГЛЯД

# «ЧАСАМ МНЕ ШКАДА НАШЫХ ДЫПЛАМАТАЎ»

***На пытанні «Звязды» адказвае дэпутат Вярхоўнага Савета Станіслаў ШУШКЕВІЧ***



**—АПОШНІЯ падзеі ў Беларусі, звязаныя з маніфестацыямі апазіцыйных сіл, з арыштам лідэраў БНФ, з дэпартацыяй кіраўнікоў польскага прафсаюза «Салідарнасць», — выклікалі ажыўленую рэакцыю за мяжой. Як, на вашу думку, гэтыя падзеі адаб'юцца на іміджы Беларусі на міжнароднай арэне, і ўвогуле на нашых адносінах з астатнім светам?**

— Мне здаецца, негатыўны імідж Беларусі ў свеце, на жаль, ужо склаўся. І гэта адбылося яшчэ да апошніх падзей. Пагоршыць рэпутацыю нашай краіны ўжо, напэўна, немагчыма, — гэта рэпутацыя і так знаходзіцца на крайняй ніжняй мяжы. Зразумела, у плане адносінаў да нас з боку іншых дзяржаў гэта можа адыгрываць толькі адмоўную ролю. Часам мне шкада нашых дыпламатаў. Іх прафесіянальны абавязак — праводзіць любую палітыку, якую вызначыць Вярхоўны Савет. Але як ім, прафесіяналам, тлумачыць або каменціраваць некаторыя рашэнні? А яны вымушаны гэта рабіць. Гэта выклікае насмешкі і адэкватнае да нас стаўленне. Урады вялікіх дзяржаў выказваюць заклапочанасць нашымі падзеямі, міжнародная грамадскасць не можа ўразумець: як такое можа адбывацца ў цэнтры Еўропы?

**— Своеасаблівым рубяжом для Расіі (і не толькі для Расіі) стане дзень 16 чэрвеня, калі адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Які магчымы сцэнарый развіцця падзей пасля 16 чэрвеня ў Беларусі?**

— Калі б мы працавалі выключна па Канстытуцыі і вырашалі пытанні ў Вярхоўным Савеце толькі на падставе законаў, а не эмоцый — на нас вынікі выбараў у Расіі фактычна ніяк напрамую не ўздзейнічалі б. Але сёння ў Беларусі іншая сітуацыя, адсюль — і чаканне гэтых выбараў, і імкненне зрабіць правільную стаўку на будучага пераможцу. Менавіта так я расцэньваю некаторыя апошнія ўказы Прэзідэнта — у прыватнасці той, які ўзаконьвае існаванне адначасова з дзяржаўным сцягам чырвонага сцяга з сярпом і молатам. Гэта — інтуітыўнае прадчуванне, чаканне пэўных вынікаў выбараў у Расіі. (Што-што, а інтуіцыя ў нашага Прэзідэнта неблагая.) Але нават такое чуццё можа часам падвесці.

Што да сімволікі, то ніхто нікому не забараняў карыстацца сцягам Перамогі, як і не спрабаваў выкрэсліваць гэту дату з гісторыі народа. Так што не было патрэбы спецыяльна пацвярджаць гэта ўказам. А другая пазіцыя такога ўказа — спрыянне процістаянню гістарычнай нацыянальнай сімволіцы.

**— І ўсё ж, у выпадку перамогі на расійскіх выбарах Генадзя Зюганава, ці бачыце вы шанцы Беларусі на захаванне дзяржаўнай незалежнасці?**

— Я бачу Беларусь незалежнай пры любым зыходзе расійскіх выбараў. Пры ўсіх выдатках камуністычнай праграмы, пры ўсіх зразумелых яе хібах, Генадзь Зюганаў валодае адной несумненнай вартасцю: ён — разумны чалавек. Прааналізуйце, як ён выступаў у Савеце Еўропы, перад замежнай аўдыторыяй, перад студэнтамі... Гэта вельмі гнуткі і разважлівы палітык. Яго мэта цяпер — прыйсці да ўлады. Дабіўшыся гэтай мэты, ён, я ўпэўнены, будзе дзейнічаць зусім не ў бальшавіцкім духу. Зразумела, там будзе моцны ціск з боку «Трудовой России», анпілаўшчыны. Але ў КПРФ вялікі ўплыў і намнога больш умераных сіл. Так што катастрофай перамогу Зюганава я не лічу. Хоць спадзяюся ўсё ж на іншы, лепшы варыянт.

**— У свой час многія спадзяваліся, што Аляксандр Лукашэнка, прыйшоўшы да ўлады, вымушаны будзе праводзіць рыначныя пераўтварэнні: актывізаваць прыватызацыю, дамагацца замежных інвестыцый, перадаць у прыватную ўласнасць зямлю. Аднак Прэзідэнт паслядоўна выконвае некаторыя свае колішнія перадвыбарныя лозунгі: праграма прыватызацыі згорнута, камерцыйныя банкі пераходзяць пад крыло дзяржавы... Як доўга, на вашу думку, можа працягвацца такая палітыка?**

— Праграма прыватызацыі не тое што згорнута — яна не распачата. Але ўвесь час ідзе іншая прыватызацыя — прыватызацыя маёмасці структурамі выканаўчай улады. Так што прысваенне дзяржаўнай маёмасці працягваецца, але тымі, хто знаходзіцца пры ўладзе. І тут я магу кінуць вялікі папрок у адрас і кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і Кантрольнай палаты... Пазіцыя кіраўніцтва заканадаўчай улады, калі злабадзённыя пытанні нават не ставяцца належным чынам перад Вярхоўным Саветам, дазваляе асобам, у добрых намерах якіх ёсць пэўныя сумненні, займацца цёмнымі справамі. Не думаю, што гэта можа доўжыцца колькі-небудзь працяглы час. У адрозненне ад многіх іншых, я лічу пераважную большасць дэпутатаў цяперашняга Вярхоўнага Савета сумленнымі людзьмі. Але яны маюць пэўныя абавязкі перад тымі, хто іх падштурхоўваў на выбарах. Думаю, што паступова яны разыдуцца з гэтым падыходам. І тады Вярхоўны Савает здолее рашуча процістаяць небяспечным тэндэнцыям. Мяркую, кваліфікацыя ў дэпутатаў узрастае. І пасля лета, відавочна, яны «ажывуць» як самастойныя палітыкі.

**— Вы гэтаму Вярхоўнаму Савету адводзіце доўгі тэрмін жыцця?**

— Я адводжу яму нармальны тэрмін — такі, як прадугледжана законам. Не падзяляю рэзкіх заяў аб неабходнасці хуткага роспуску — накшталт той заявы, якую на мінулым тыдні зрабіў дэпутат Лябедзька. Што гэта за жэст? Вынікі ж галасавання па гэтаму пытанню загадзя вядомыя. Калі чалавека абралі, а ён не здольны, як дэпутат, праводзіць работу на карысць дзяржавы і сваіх выбаршчыкаў — дык навошта гэты чалавек ішоў на выбары?

Сёння трэба працаваць. Вось наша фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» выпрацоўвае канцэпцыю эканамічнага рэфарміравання краіны і хутка прапануе яе. Гэта рэальная канцэпцыя, і трэба спрабаваць павярнуць дэпутатаў у бок рынку з фрагментамі сацыяльнай абароны.

**— Тым не менш, масавая свядомасць па-ранейшаму не прымае ідэю рынку, адмаўляе эканамічныя пераўтварэнні заходняга ўзору...**

— У гэтым няма нічога дзіўнага. Паслухайце, пра што ў нас штодня гаворыць дзяржаўнае радыё... Тут вельмі відавочная сітуацыя. Уявіце, што лекары ў сваёй працы кіраваліся б уяўленнямі аб хваробах, якія існуюць у бедных хворых людзей. І пыталіся б у няшчаснай бабулі:

— Вось лечым цябе, а табе па-ранейшаму баліць?

— Баліць.

— А раней было лепей, не балела?

— Так, раней не балела.

— Значыць, раней лячылі лепш, дактары былі лепшыя.

У нас прыкладна такая ж схема ў падыходзе да эканамічных праблем. Мяне вельмі бянтэжыць прымітывізм многіх журналістаў, якія пішуць у нас на гэту тэму. Па меншай меры, праява непрафесіяналізму — дапытваць несвядомых, затлумленых людзей пра шляхі выхаду з крызісу.

Гэтак жа — і на высокім афіцыйным узроўні. Выпрацоўваюцца эклектычныя нежыццяздольныя сумесі накшталт «рыначнага сацыялізму». Між тым, усе нашы суседзі даўно намацалі адзіна правільнае выйсце. Трэба стварыць належныя ўмовы чалавеку, каб ён мог сам распараджацца сваім лёсам. Праяўляць ініцыятыву, шукаць і зарабляць сабе на дастойнае жыццё. Замест гэтага ў нас — суцэльная прапаганда ўсеагульнага плачу і ўтрыманства.

**— Між тым, менавіта гэтыя масы вырашаюць лёс улады, а значыць — і будучыні краіны...**

— Так, але працягвацца такая сітуацыя не можа бясконца. Паглядзіце на прыклад нашых заходніх і паўночных суседзяў — Польшчы, Літвы, Латвіі. Польшча за адзін толькі апошні квартал атрымала паўтара мільярда долараў замежных інвестыцый. Да таго ж — вялікі прамысловы рост. А зыходная сітуацыя ў канцы 80—пачатку 90-х гадоў у іх была такая ж, як і ў нас. Так што неабходна аналізаваць прычыны і вынікі нашага цяперашняга становішча, і не браць за пункт адліку пры прыняцці важных дзяржаўных рашэнняў памылковыя стэрэатыпы дэзарыентаваных людзей, даўно дыскрэдытаваны прынцып «адабраць і падзяліць».

**— Дагаворам аб стварэнні беларуска-расійскай Супольнасці прадугледжана ў перспектыве правядзенне рэферэндуму аб будучыні гэтага ўтварэння. Ці магчымы, на вашу думку, такі рэферэндум і да якіх вынікаў ён здольны прывесці?**

— Калі я толькі пачынаў работу ў Вярхоўным Савеце, у 1990 годзе, то лічыў, што гэта ідэальная форма народнага волевыяўлення. Цяпер бачу, што памыляўся. Проста трэба зазірнуць у гісторыю і ўспомніць, колькі рэферэндумаў падтрымлівала палітыку Гітлера, аншлюс Аўстрыі, Чэхіі... У пераходны перыяд, калі дзяржава карэнным чынам мяняецца, калі адбываецца пераход да іншай сістэмы — нельга праводзіць рэферэндумы. Бо вялікія масы людзей дэзарыентаваныя, не здольныя разабрацца ў сапраўдных прычынах многіх з'яў. Іншая рэч — рэферэндумы ў стабільных дзяржавах. Так што ў нашай сітуацыі рэферэндум ператвараецца ў інструмент маніпуляцыі, падману. Ды і пра што пытаць на гэтым гіпатэтычным рэферэндуме? Пытацца ў расіян, ці хочуць яны далучыць Беларусь? Зразумела, хочуць — гэта спакуслівы кавалак. А пра што спытаць у беларусаў? Можа, пра тое, ці хочуць яны змагацца за Курыльскія астравы або ваяваць у Чачні і Таджыкістане? Можна таксама спытаць у беларускіх злачынцаў, ці жадаюць яны адседжваць свае тэрміны ў Сібіры. Так што гэта не тое пытанне, якое можна вырашаць рэферэндумам.

**— Усё залежыць ад таго, як яго сфармуляваць.**

— Пры той кваліфікацыі Вярхоўнага Савета, якая ёсць на сёння, гэтае пытанне магло б быць сфармулявана самым нечаканым чынам. Але ў мяне такое перакананне, што дэпутаты хутка набіраюць вопыт і веды, прычым нават самыя цемрашалістыя. Неўзабаве ўвесці іх у зман каму б там ні было будзе вельмі цяжка.

**— Вы каля трох гадоў узначальвалі Вярхоўны Савет мінулага склікання. Што кідаецца ў вочы, калі параўноўваць той і гэты састаў парламента?**

— Параўноўваць вельмі цяжка. Што выразна кідаецца ў вочы — дык гэта ўзровень арганізацыйнай работы. Вось сённяшні прыклад: старшыня парламенцкай камісіі павінен дакладваць пытанне на пленарным пасяджэнні, а ён пра гэта не ведае. Або пасяджэнне камісіі прызначана на той жа час, калі ідзе пасяджэнне ў зале... Раней такога не было. А цяпер апарат значна павялічыўся, а парадку стала менш. Арганізацыйна Прэзідыум належным чынам не кіруе і, падобна, не ведае, як гэта робіцца.

**— На вашу думку, давыбары ў Вярхоўны Савет адбудуцца?**

— Перакананы, што павінны адбыцца. Гэта пытанне ўключана і ў парадак дня. Лічу, давыбары — адзін са спосабаў карэкціроўкі саставу Вярхоўнага Савета. Не выбраны дэпутаты якраз ад тых акруг, дзе можна спадзявацца толькі на высокаінтэлектуальны ўзровень дэпутатаў (Гэта пераважна гарадскія акругі.)

**— Выбары адбудуцца паводле ранейшага закона?**

— Па 25-працэнтнай норме. Цяпер ужо Вярхоўны Савет у стане даць неабходнае тлумачэнне. Думаю, у свой час Канстытуцыйны суд не меў рацыі, калі напярэдадні снежаньскіх выбараў даў задні ход і растлумачыў не сутнасць закона, а тэрміны яго дзеяння. Але цяпер гэта пытанне знята. Думаю, увосень адбудуцца давыбары, і Вярхоўны Савет у выніку стане значна больш кваліфікаваным.

**— Чым вы цяпер займаецеся?**

— У мяне ёсць пэўная праграма, мы працуем над законамі. У нашай камісіі па эканамічнай рэформе я знаходжу спосабы тлумачэння нашых падыходаў нават тым членам камісіі, якія па сваёй прыродзе, здавалася б, павінны быць антырыначнікамі. Асабіста для мяне гэта вельмі важная пазіцыя.

**— Вы згадваеце той час, калі ўзначальвалі Вярхоўны Савет? Ці былі нейкія крокі, учынкі таго часу, якія вам здаюцца памылкай, і буйной памылкай?**

— Я такіх крокаў не бачу. Калі б пачынаць спачатку — я інакш і не ішоў бы. Галоўны папрок у мой адрас — за нібыта адсутнасць рашучасці. Але калі рашучасць звязана з парушэннем закона — я на такую рашучасць ніколі не пайду. Так мы ніколі не пабудуем прававую дзяржаву. І ніхто не можа мяне папракнуць у тым, што ў нечым я адступіў ад закона.

**— А можа, надзвычайныя абставіны ўсё спісалі б — затое краіна рушыла б наперад?**

— Сумленне мне нічога не спісала б. Я адказны найперш перад самім сабой. Мой галоўны лозунг: маім дзецям за мяне не павінна быць сорамна. І адступіць ад яго я не мог.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО.**

---

*У КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## УМАЦАВАЦЬ ЭКАНОМІКУ, НАПОЎНІЦЬ БЮДЖЭТ

**Як ажывіць эканоміку, пазбегнуць масавага беспрацоўя, напоўніць бюджэт грашовымі паступленнямі ад стабільна працуючых прадпрыемстваў?**

Гэтыя пытанні абмяркоўвалі на сваім пасяджэнні члены Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах пры разглядзе блока рыначных законаў, якія плануецца прадставіць на зацвярджэнне парламента. Сярод іх Закон «Аб стварэнні новых рабочых месцаў і падтрымцы вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва», змяненні і дапаўненні ў Законы «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці», «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах», «Аб процідзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі». Усе законапраекты прайшлі экспертызу спецыялістаў Міністэрства па антыманапольнай палітыцы, Вышэйшага гаспадарчага суда, Міндзяржмаёмасці, Мінфіна, іншых зацікаўленых міністэрстваў і ў бліжэйшы час будуць прадстаўлены на абмеркаванне першай сесіі беларускага парламента.

**Прэс-служба ВС Рэспублікі Беларусь.**

---

*РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ*

## ЯК Я ЎЧЫНЯЎ «ДОПЫТ» САКРАТАРУ ЦК ЦІХІНЮ...

**Прачытаў інтэрв'ю ў вашай газеце са старшынёй Канстытуцыйнага суда («Звязда» за 15 мая). Спадабалася і сама гутарка, і асоба Валерыя Гур'евіча. Мне здаецца, я зразумеў яго, таму ўдзячны шаноўнаму юрысту, што ён канчаткова выбраў свой шлях.**

Ён грунтуецца на веры ў непахіснасць Закона. Лічу, што для нашага грамадства гэта выключна адзіны шлях выхаду да нармальнага, цывілізаванага і, урэшце, заможнага жыцця. На жаль, пакуль гэта толькі зорка на нашым небасхіле, якой дапамагае свяціць старшыня Канстытуцыйнага суда.

Думаецца, што тым, хто сумняваецца ў праўдзівасці слоў памянёнага інтэрв»ю, дапаможа вось гэты факт.

Жнівень 1991 года, гарачае лета... Спроба путчу. Тады, у 1991-м, была сфарміравана дэпутацкая камісія па вывучэнню фактаў, звязаных з дзейнасцю ГКЧП, пад кіраўніцтвам І.Пырха. У адпаведнасці з пастановай ВС у яе састаў трапіў і я.

Дык вось, мне і яшчэ аднаму дэпутату Мінскага гарсавета, было даручана высвятліць адносіны да ГКЧП члена ЦК КПБ В.Ціхіні. Нягледзячы на статус народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, Валерый Гур'евіч не ўхіліўся ад гутаркі і тлумачэнняў. У той вельмі неспрыяльны для камуністаў час, нягледзячы на непрадказальнасць далейшага развіцця падзей, адзін з «падпісантаў» заявы ў падтрымку ГКЧП паводзіў сябе годна і без страху, спасылаўся на існуючае заканадаўства. Ён ужо тады юрыдычна правільна кваліфікаваў сітуацыю, што праз некалькі гадоў пацвердзілася і ў Маскве.

У другі раз я сутыкнуўся з Валерыем Гур`евічам падчас пасяджэння Канстытуцыйнага суда пры разглядзе ў 1995 годзе Указа Прэзідэнта наконт скасавання мясцовых Саветаў. Сітуацыя была вельмі напружаная. І зноў я быў задаволены мужнымі паводзінамі і высокім прафесіяналізмам Валерыя Гур'евіча.

Каб чытачы не падумалі пра маю вялікую «любоў» да спадара Ціхіні, узгадаю, што я актыўна ўдзельнічаў у руху БНФ «Адраджэнне».

**Валерый ГРЫЦУК,**
**старшыня дэпутацкай камісіі па захаванню законнасці, ахове правоў грамадзян, галоснасці і вывучэнню грамадскай думкі Першамайскага райсавета Мінска.**

---

## Старыя дэпутаты сыходзяць, новых няма

**Гродзенскі гарадскі Савет праз мясцовую прэсу паведаміў выбаршчыкам, хто з дэпутатаў склаў свае паўнамоцтвы. Ажно 19 адпаведных заяў было адрасавана апошняй сесіі.**

Матывы самаадводу: змяненне месца жыхарства, характару работы, частыя выезды ў далёкія камандзіроўкі, што перашкаджае ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзенні сесій, пасяджэнняў дэпутацкіх камісій, арганізацыі работы з выбаршчыкамі і г. д. Можа сабе і так.

Здзіўляе, аднак, што на ўсе гэтыя цяжкасці не скардзіліся раней. А тут раптам «прарвала», прычым у такім масавым парадку. Можна дапусціць, што гэтым людзям за шэсць гадоў дэпутацтва ўжо проста не хочацца хадзіць на сесіі. І тым больш чуць пра тых, хто, маўляў, заседзеўся.

Сапраўды, няхай бы папрацавалі новыя дэпутаты. Але дзе яны? У гарсавет пакуль выбралі толькі аднаго. Ці будзе калі гэтаму чалавеку кампанія — невядома.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# КАМБІНАТ І КАМБІНАТАРЫ,
## або Калі да мастакоў прыедзе рэвізор?

**На старонках «Звязды» вядзецца размова аб праблемах развіцця беларускага мастацтва. Уражанні ад інтэрв'ю з М. Савіцкім, ад «рашучага пратэсту», які быў выказаны М. Савіцкаму калектывам са 117 выкладчыкаў і мастакоў, даюць падставы закрануць яшчэ адзін бок гэтага актуальнага пытання.**

У наш час цяжка здзівіць каго-небудзь, распавядаючы аб эканамічных, гаспадарчых ці іншых бязладдзях у той ці іншай установе. Здаецца, без нейкай ступені «крыміналу» зараз не працуе ўжо ніхто. Але тое, аб чым мы жадаем расказаць чытачу, — выпадак і адметны, і кур'ёзны, і трагічны — адным словам, сімвалічны для нашых дзён.

Культура і мастацтва зараз знаходзяцца ў цяжкім становішчы. Гэта настолькі відавочна, што стала ўжо «агульным месцам» у любой размове. Не з'яўляецца выключэннем з гэтага і Саюз беларускіх мастакоў, і яго вытворчая база — Мінскі мастацка-вытворчы камбінат (ММВК). Калі карацелька зазірнуць у гісторыю камбіната, то мы знойдзем там шмат рознага: і высокія мэты, і напружаную працу, і скандалы, і парушэнні. Гэта зразумела: цяжка сумяшчаць мастацкую творчасць з гаспадарчай дзейнасцю так, каб дабіцца бездакорнага ладу. Але ж, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, і дзесяць, і дваццаць, і трыццаць гадоў назад камбінат працаваў, працавалі мастакі, і можна было гаварыць аб развіцці нацыянальнай мастацкай культуры. Тым больш, што «гаспадаром» камбіната заўсёды з'яўляўся Саюз мастакоў.

Здавалася б, чаму не працаваць і далей? У наш час і мастакі, і кіраўніцтва творчага саюза, і адміністрацыя камбіната павінны мець агульную мэту: выжыць, захаваць і саюз, і яго вытворчую базу. Але ў апошнія гады адбываецца зусім іншае — на першы погляд, незразумелае. Камбінат, які карміў цэлыя пакаленні мастакоў, руйнуецца — і рукамі тых, хто мастакамі кіруе.

Тыя плошчы, на якіх раней працавалі мастакі, здаюцца ў арэнду камерцыйным структурам. Фактычна знішчаны эстампны цэх — абсталяванне яго было разбіта кувалдамі. Колькасць мастакоў, якія працуюць на камбінаце, ужо амаль што ў два разы меншая, чым колькасць адміністрацыі. Лісты аб тым бязмежжы, якое пануе ў сценах «мастацка-вытворчай» установы, падпісаны дзесяткамі супрацоўнікаў ММВК — ад мастакоў да цесляроў. Вось некалькі цытат: «1000 дойчмарак былі ўзяты дырэктарам ва ўласных мэтах пры паездцы ў ФРГ і не вернуты ў касу; за праданыя ў ФРГ аўтарскія працы мастакоў расплаціўся камбінат (на артыкул страт), затое дырэктар прывёз сабе машыну...» Камерцыйнай структуры, якая створана пры камбінаце, пералічана 33 мільёна рублёў за... нявыкананы аб'ём работ. І гэтак далей, і гэтак далей...

Здаецца, пры сённяшнім эканамічным бязладдзі — нічога дзіўнага. Ну, пацерпіць ММВК банкруцтва — але ж ён не адзін такі. Аднак справа ў іншым. Саюз мастакоў сярод усіх творчых Саюзаў мае найвялікшую маёмасць. Яму фактычна належаць сотні і сотні творчых майстэрань як у Мінску, так і ў абласных цэнтрах, належыць названы ўжо Мінскі камбінат, унікальны камбінат дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Барысаве, адзін з буйнейшых у краіне выставачных павільёнаў — Палац мастацтва, абласныя мастацка-вытворчыя камбінаты, шматлікія вытворчыя майстэрні і памяшканні ў Мінску і ў іншых гарадах. Калі ўсё падлічыць — атрымаецца не так ужо і мала.

Ва ўсёй гэтай сістэме Мінскі мастацка-вытворчы камбінат займае цэнтральнае месца. Яго крах фактычна прадвызначае гібель усёй вытворчай базы Саюза мастакоў і непазбежна прывядзе да татальнага развалу творчага саюза ўвогуле. Як можа працаваць мастак, калі плата за майстэрню ў некалькі разоў перавышае яго заробак? Дзе знайсці працу, калі тая структура, што заўсёды яе давала, знішчана? Аб якім мастацтве, аб якім развіцці нацыянальнай культуры можа ісці гаворка?

Па заявах кіраўніцтва, камбінат меў прыбытак у 400 мільёнаў рублёў. Рэвізійная камісія Саюза мастакоў жахнулася, калі стала відавочна: доўг камбіната складае больш чым 3 мільярда рублёў. Ці можа быць так, каб структура, падпарадкаваная і падсправаздачная кіраўніцтву Саюза мастакоў, сама дайшла да такога стану і ніхто аб гэтым не ведаў? Паглядзіце, што было гарантавана па дагавору дырэктару Ю. Рагавому (дарэчы, ужо звольненаму з пасады): 15 мінімальных зарплат у месяц; надбаўка ў 20 працэнтаў да акладу; 5 працэнтаў прыбытку ад новага віду дзейнасці; матэрыяльная дапамога да штогадовага водпуску ў памеры 1,5 акладу і г. д. Дагавор гэты быў падпісаны старшынёй Саюза мастакоў Г. Буралкіным. Калі вынікі рэвізіі прымусілі кіраўніцтва Саюза звольніць дырэктара Рагавога, ён — па словах аўтараў чаргова калектыўнага ліста — прыхапіў з сабою карціны са свайго службовага кабінета і партатыўную пішучую машынку.

Варта запытаць: чаму кіраўніцтва ММВК паводзіць сябе так бесцырымонна, чыю падтрымку адчуваюць за сабой тыя людзі, аб якіх пішуць радавыя супрацоўнікі камбіната?

Зразумець гэта — значыць адказаць на пытанне: каму і з якой прычыны карысна банкруцтва беларускіх мастакоў? І зноў можна прывесці прыклад. Барысаўскі камбінат дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — унікальная база, якая не мае аналагаў ні ў адной з краін СНД. Габеленны цэх, у якім ткаліся унікальныя габелены, гонар нашай культуры, керамічны цэх, цэх па вырабу верхняга адзення — усё гэта даведзена да поўнага развалу і галечы. І вось на сходзе жывапіснай секцыі Саюза мастакоў намеснік старшыні Саюза прапануе прадаць (?!) габеленны цэх. І матывуе гэта менавіта тым, што габелен — унікальная вытворчасць, яна разбурана, у нас няма сіл яе аднавіць... Менавіта таму, што гэты цэх — унікальны, яго і трэба ліквідаваць у першую чаргу. Што ва ўсім гэтым сапраўды унікальнага — дык гэта нахабства.

Застаецца запытаць: што аб гэтым скажа сам старшыня творчага Саюза? Ці, можа, ён не разумее, што банкруцтва камбіната, распродаж маёмасці абласных камбінатаў, бязладдзе з арэндай памяшканняў у Палацы мастацтваў (дарэчы, мінулы дырэктар палаца быў арыштаваны ва ўласным кабінеце) — ўсё гэта вядзе да развалу самога Саюза? Няўжо кіраўніцтва мастакоў не ведае, што крах Саюза мастакоў не толькі прывядзе да паўкрымінальнага падзелу маёмасці, але і створыць прэцэдэнт, дасць прыклад самаліквідацыі саюза творчых дзеячаў? Зараз усё вырашаюць грошы — але ж дзе сумленне мастака, дзе клопат аб будучыні, захаванне і развіццё мастацтва не на словах, а на справе?

Мастацкая вытворчасць — гэта сапраўды «справа», «бізнес», які ва ўсім свеце дае добры прыбытак. Тое, што мае Саюз, — выдатнейшая база, трэба толькі сумленна і сур'ёзна ставіцца да яе. Вядома, можна ўсё пусціць «з малатка» альбо, як прапанаваў адзін з кіраўнікоў Саюза, прадаць частку маёмасці і... пакласці грошы ў банк. Вось толькі хто з больш чым тысячы членаў Саюза мастакоў будзе жыць на гэтыя працэнты?

Не так даўно буйнейшыя беларускія мастакі звярнуліся да членаў і кіраўніцтва Саюза мастакоў. Заклапочанасць тым становішчам, у якое трапілі і мастакі, і камбінат, вымусіла вельмі розных людзей аб'яднацца ў поглядах на гэтае пытанне. «Тое, што створана мастакамі, — па праву належыць мастакам, і ніякае «кіраўніцтва», ніякія дырэктары не павінны пакінуць у дурнях тых, хто ствараў агульную спадчыну Саюза мастакоў. Тых, чыю працу яны імкнуцца прысвоіць. Мастацкі камбінат — гэта вынік працы ўсіх мастакоў. І толькі мастакі павінны вырашаць яго лёс». Пад гэтымі словамі падпісаліся і Шчамялёў, і Савіцкі, і Вашчанка, і Паплаўскі, Данцыг, Грамыка, Кашкурэвіч... Па- сутнасці, пытанне аб вытворчай базе мастакоў — гэта пытанне, якое кранае ўвесь працэс развіцця культуры. Разбурэнне Саюза мастакоў, яго матэрыяльнае банкруцтва прывядзе да вялікіх страт у мастацтве ўвогуле.

Зразумела, працэс руйнавання Саюза дасць шанц — няхай сабе і ілюзорны — «уратаваць» кавалак маёмасці. Але крыўдна было б у гэткіх умовах разважаць аб нейкім «развіцці нацыянальнага мастацтва». У гэтай «латарэі» не будзе выйгрышу — бо ў рэшце рэшт пацерпяць усе, і ў першую чаргу мастацтва. Зараз, калі паўстае пытанне аб нечарговай канферэнцыі Саюза мастакоў, трэба толькі адно: мастакі павінны зразумець, што эканамічныя, гаспадарчыя і творчыя пытанні звязаны непарушна. Па сутнасці, гэта адно пытанне: аб выжыванні, аб мастацка-творчым і аднachасова фінансавым, матэрыяльным, фізічным існаванні кожнага мастака. Аб фінансавым жа «існаванні» кіраўніцтву Саюза, здаецца, можна не клапаціцца.

І як буйнейшыя майстры нашай культуры, нягледзячы на розныя мастацкія, творчыя, грамадзянскія пазіцыі, знайшлі агульны погляд на істотнейшыя пытанні, так і ўсе мастакі павінны зразумець: час надышоў крытычны. І выратавацца ад надыходзячага крызісу можна толькі разам.

І апошняе. Аднаўленне нармальнай дзейнасці ММВК мае вялікае значэнне і для беларускай культуры, і для эканомікі Беларусі: моцнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва заўсёды дае вялікі прыбытак. Але ж навесці парадак у гаспадарчай дзейнасці немагчыма, пакуль няма дакладнага ўяўлення аб памерах парушэнняў і злачынстваў у сістэме ММВК, аб тым, якія структуры найбольш пацярпелі, якія аднавіць будзе прасцей. Разабрацца ў гэтым можа толькі комплексная рэвізія. Сам камбінат не мае магчымасці яе правесці — у яго на гэта проста няма грошай. Кіраўніцтва Саюза мастакоў ніколі рабіць такой праверкі не будзе — і зразумела чаму. Тым больш, што праверка ММВК службамі Саюза мастакоў — гэта фактычна праверка «самога сябе», той класічны выпадак, калі скарга вяртаецца да таго, на каго яна была напісана.

Здаецца, дзяржава павінна была б быць зацікаўлена ў навядзенні парадку на мастацка-вытворчым камбінаце. Але ж абласная служба кантролю пры Прэзідэнце адмовілася займацца гэтым пытаннем — бо камбінат не здольны аплаціць працу рэвізораў. Застаецца запытаць: калі ж урад, кіраўніцтва рэспублікі звернуць увагу на той стан спраў, які склаўся, і наколькі іх цікавіць тое, што адбываецца ў Саюзе мастакоў і ўвогуле ў беларускім мастацтве?

**Анатоль ЗАЙЦАЎ,**
**мастак, член бюро секцыі мастацкага праектавання Саюза мастакоў РБ.**

# УРОКІ АНТЫКАМУНІЗМУ?

**Падобна на тое, што беларускія камуністы становяцца ахвярамі расійскай перадвыбарнай кампаніі. Такога магутнага патоку антыкамуністычных публікацый, тэлеперадач, відэаролікаў, як цяпер, не было, бадай, нават у канцы 80—пачатку 90-х гадоў, калі набліжалася да канца панаванне КПСС.**

Прытым цяперашняя антыкамуністычная прапаганда, у адрозненне ад ранейшых часоў, вядзецца на высокім прафесіянальным узроўні. Пра самыя агідныя, цёмныя старонкі камуністычнага мінулага з тэлеэкранаў і газетных палос успамінаюць не штатныя прапагандысты і апаратчыкі, а простыя расіяне: калгасныя бабулі-пенсіянеркі, рабочыя ад станка, вайскоўцы... Іх неадрэдагаваная простая мова гучыць эмацыянальна і пераканаўча, ствараючы асаблівы душэўны настрой у гледача. У кароткія троххвілінныя споведзі ўкладзены цэлыя чалавечыя жыцці, пераламаныя рэпрэсіўнай дзяржаўнай машынай таталітарнага рэжыму. Камуністам зноў прыпамінаюць ГУЛАГ, раскулачванне, калектывізацыю, голад і чэргі, праследаванні іншадумства і разбурэнне цэркваў.

Зразумела, усё гэта — па сутнасці агітацыя за Барыса Ельцына. Але агітацыя прафесіянальная, грунтоўная. Імя Ельцына амаль не згадваецца, заклікі галасаваць за яго не гучаць увогуле. Гэтыя высновы глядач павінен зрабіць сам: яны застаюцца за кадрам, да іх падштурхоўвае ўвесь драматызм чалавечых лёсаў, якія дзень пры дні праходзяць перад вачыма мільёнаў расіян.

І не толькі расіян. Паколькі Беларусь уваходзіць у сферу дамінуючага ўплыву расійскіх сродкаў масавай інфармацыі (асабліва электронных) — грамадзяне Беларусі міжволі ўцягнуты ў арбіту перадвыбарнай гонкі. І масіраваная антыкамуністычная кампанія напрамую ўздзейнічае на настроі беларусаў. Пры гэтым найбольш пацярпеўшым бокам выглядаюць беларускія камуністы, якія нясуць цяжкія ідэалагічныя страты, хоць фармальна да расійскай выбарнай гонкі не маюць прамога дачынення. За кошт расійскага бюджэту мільёны беларускіх грамадзян атрымліваюць урокі антыкамунізму.

А пра тое, што страты гэтыя істотныя, сведчаць звесткі сацыёлагаў. Паводле сацыялагічных апытанняў, якія штомесяц па заказу «Белорусской деловой газеты» праводзіць лабараторыя Андрэя Вардамацкага «Новак», у красавіку ў Беларусі за Партыю камуністаў выказвалі гатоўнасць аддаць галасы 16,2 працэнта апытаных грамадзян. (У пытанні прапаноўвалася выбраць партыю, за якую рэспандэнт гатовы прагаласаваць, калі б парламенцкія выбары адбыліся заўтра.) На пачатак мая колькасць прыхільнікаў ПКБ знізілася больш як на чатыры працэнты — да 12 працэнтаў. Яшчэ больш уражвае падзенне рэйтынгу другой левай партыі, якая займае дамінуючае становішча ў цяперашнім Вярхоўным Савеце — Аграрнай партыі. У красавіку яна з 11 працэнтамі значылася на другім радку ў рэйтынгу пасля камуністаў. За месяц перамясцілася ажно на чацвёрае месца: колькасць яе прыхільнікаў знізілася да 6,2 працэнта. Адначасова ўмацавалі свае пазіцыі амаль усе вядучыя дэмакратычныя партыі. Народны фронт зноў перамясціўся на другое месца — у яго 8,7 працэнта падтрымкі (у красавіку было 7,8); партыя жанчын «Надзея» — 6,6 працэнта (5,2); Аб'яднаная грамадзянская партыя — 4,4 (3,7); Беларуская экалагічная партыя — 4,0 (2,4).

Гэта змена грамадскіх настрояў можа мець для Беларусі істотнае значэнне ў кантэксце магчымых давыбараў у Вярхоўны Савет, якія, верагодна, адбудуцца ўвосень. Шэсць дзесяткаў дэпутацкіх месцаў, якія дагэтуль застаюцца вакантнымі, здольны карэнным чынам змяніць расклад сіл у беларускім парламенце.

Расійскія прэзідэнцкія выбары 1996 года — апошні шанц камуністаў на рэванш. Калі Барысу Ельцыну ўдасца ўтрымаць у руках штурвал улады, КПРФ атрымае такі магутны ўдар, ад якога наўрад ці здолее ўжо ачуняць. Расія на пад'ёме і ўжо выбіраецца з цяжкасцяў пераходнага перыяду. Праз чатыры гады, калі прамысловы рост прывядзе да рэальнага павышэння жыццёвага ўзроўню мільёнаў расіян, пра камуністычныя ілюзіі наўрад ці будуць успамінаць.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Пашырэнне НАТО — пытанне вырашанае?

***Меркаванні і прагнозы наконт таго, што прынясе магчымае пашырэнне НАТО на ўсход і якія ўзаемаадносіны павінны скласціся паміж Паўночнаатлантычным альянсам і нашай краінай, сталі сёння аднoй з галоўных тэм беларускіх сродкаў масавай інфмармацыі. У працяг дыскусіі наш карэспандэнт гутарыць з дырэктарам праграмы Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў Іванам Макаловічам, які, дарэчы, днямі браў удзел у Міжнароднай берлінскай канферэнцыі «Пашырэнне НАТО на ўсход — перспектывы і рызыка».***

**— НАТО сёння — што яно сабой уяўляе?**

— Трэба разумець, што зараз Паўночнаатлантычны альянс — гэта перш-наперш палітычны і эканамічны, і толькі потым ваенны саюз. Альбо, кажучы інакш, НАТО — гэта проста сучасная Заходняя Еўропа.

**— Наколькі маюць пад сабой падставы размовы аб хуткім уступленні ў альянс краін Усходняй Еўропы і, у прыватнасці, нашых бліжэйшых суседзяў?**

— Можна лічыць, што гэта пытанне вырашана — НАТО будзе пашырацца. Па сутнасці, арміі Чэхіі, Венгрыі і Польшчы ўжо інтэграваныя ў структуры Паўночнаатлантычнага саюза. Таму ў адносінах да гэтых краін засталася чыстая фармальнасць — падпісанне адпаведных дакументаў. Хутчэй за ўсё, яно адбудзецца ў наступным годзе.

**— Аднак беларускае МЗС выказала думку, што пашырэнне НАТО на ўсход непазбежна прывядзе да новага міжблокавага процістаяння. Наколькі гэта рэальна?**

— Фарміраванне блока, альтэрнатыўнага НАТО, ужо ідзе. Узгадаем хаця б Дамову аб калектыўнай бяспецы краін СНД. Іншая справа, ці здолее Расія стварыць вартую процівагу з чыста эканамічных меркаванняў? Пытанне, ды, як кажуць, яшчэ якое.

**— У такім разе, на вашу думку, дзе шлях Беларусі?**

— Праблема сапраўды вельмі сур'ёзная. Зараз Беларусь цалкам падтрымлівае пазіцыю Расіі. З іншага боку, НАТО сёння пакуль адзіны гарант стабільнасці ў Еўропе, і ў альянс імкнуцца ўсе еўрапейскія краіны. Відаць, ісці іншым шляхам проста не мае сэнсу. Прычым як Беларусі, так і Расіі.

**Сяргей ГРЫБ.**

# НАЙБОЛЬШЫМ ДАВЕРАМ СЯРОД НАСЕЛЬНІЦТВА КАРЫСТАЕЦЦА ЦАРКВА

**Сацыялагічная служба Андрэя Вардамацкага правяла агульнарэспубліканскае апытанне больш як тысячы прадстаўнікоў розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва Беларусі адносна даверу розным дзяржаўным і грамадскім структурам.**

Як паказала апытанне, найбольшым даверам сярод насельніцтва карыстаецца царква. Кожны трэці рэспандэнт (33%) ёй «поўнасцю давярае». Практычна кожны чацвёрты апытаны (24%) у такой жа ступені давярае прэзідэнту краіны і 15 працэнтаў — «поўнасцю давярае» войску. Іншыя дзяржаўныя і грамадскія інстытуты і арганізацыі карыстаюцца значна меншым даверам грамадзян. Так, ледзь не кожны трэці рэспандэнт (29%) «поўнасцю не давярае» міліцыі, кожны чацвёрты (25%) аналагічна ставіцца да мясцовых уладаў і кожны пяты «поўнасцю не давярае» традыцыйным прафсаюзам (22%) і органам правасуддзя (20%).

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

# РАСІІ І УКРАІНЫ Ў КРАСАВІКУ

## ЗЮГАНАВЫМ, у Мінску зноў заявіў аб сабе Беларускі народны фронт, а ў Кіеве — Леанід КРАЎЧУК.

**Міхаіл ПЕТРАЧОЎ** ***«Независимая газета»***

### 50 вядучых палітыкаў Украіны

| №№ | ПРОЗВІШЧА, імя, імя па бацьку | СЯРЭДНІ БАЛ красавік | СЯРЭДНІ БАЛ сакавік | ПАСАДА |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Кучма Леанід Данілавіч | 8.00 | (7,35) | Прэзідэнт Украіны |
| 2. | Марчук Яўген Кірылавіч | 7,63 | (6,76) | Прэм'ер-міністр, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 3. | Мароз Аляксандр Аляксандравіч | 6,84 | (6,46) | Старшыня Вярхоўнай Рады |
| 4. | Гарбулін Уладзімір Паўлавіч | 6,66 | (6,62) | Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі пры прэзідэнце, саветнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы |
| 5. | Табачнік Дзмітрый Уладзіміравіч | 6,30 | (5,48) | Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта |
| 6. | Лазарэнка Павел Іванавіч | 5,55 | (4,84) | Першы віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 7. | Сіманенка Пётр Мікалаевіч | 5,44 | (5,62) | Лідэр кампартыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 8. | Юшчанка Віктар Андрэевіч | 4,91 | (4,80) | Старшыня кіраўніцтва Нацыянальнага банка |
| 9. | Удавенка Генадзь Іосіфавіч | 4,54 | (4,42) | Міністр замежных спраў |
| 10. | Пуставойценка Валерый Паўлавіч | 4,36 | (3,81) | Міністр Кабінета міністраў |
| 11. | Радчанка Уладзімір Іванавіч | 4,32 | (3,30) | Старшыня Службы бяспекі Украіны |
| 12. | Ткачэнка Анатоль Аляксандравіч | 4,30 | (3,29) | Намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады |
| 13. | Шмараў Валерый Мікалаевіч | 4,23 | (4,27) | Міністр абароны |
| 14-15. | Галаваты Сяргей Пятровіч | 4,21 | (4,16) | Міністр юстыцыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 14-15. | Емец Аляксандр Іванавіч | 4,21 | (3,96) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 16-17. | Краўчук Леанід Макаравіч | 4,18 | (3,24) | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 16-17. | Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч | 4,18 | (4,21) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Народнага Руху |
| 18. | Шчэрбань Уладзімір Пятровіч | 4,14 | (3,80) | Кіраўнік адміністрацыі Данецкай вобласці, дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Ліберальнай партыі |
| 19. | Собалеў Сяргей Уладзіслававіч | 3,86 | (3,29) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Рэформы» |
| 20-21. | Буткевіч Уладзімір Рыгоравіч | 3,77 | (3,54) | Старшыня камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях правоў чалавека |
| 20-21. | Кулік Зіновій Уладзіміравіч | 3,77 | (4,02) | Старшыня Дзяржкамітэта па тэле- і радыёвяшчанню |
| 22. | Еханураў Юрый Іванавіч | 3,76 | (3,32) | Старшыня Фонду Дзяржмаёмасці |
| 23. | Касакоўскі Леанід Рыгоравіч | 3,74 | (3,49) | Кіраўнік адміністрацыі Кіева |
| 24. | Краўчанка Юрый Фёдаравіч | 3,68 | (2,86) | Міністр унутраных спраў |
| 25. | Пінзенік Віктар Міхайлавіч | 3,67 | (3,36) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 26. | Шпек Раман Васільевіч | 3,65 | (3,54) | Віцэ-прэм'ер |
| 27. | Германчук Пётр Кузьміч | 3,62 | (2,87) | Міністр фінансаў, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 28. | Уладзімір | 3,60 | (3,21) | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Маскоўскага Патрыярхату) |
| 29. | Асыка Сяргей Рыгоравіч | 3,51 | (3,30) | Міністр знешнеэканамічных сувязей і гандлю |
| 30. | Гецьман Вадзім Пятровіч | 3,46 | (2,79) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Незалежныя» |
| 31. | Кінах Анатоль Кірылавіч | 3,45 | (3,19 | Віцэ-прэм'ер |
| 32. | Філарэт | 3,43 | (2,93) | Патрыярх Кіеўскі і ўсяе Украіны—Русі (УПЦ Кіеўскага Патрыярхату) |
| 33. | Варсінаў Рыгор Трафімавіч | 3,38 | (3,32) | Генеральны пракурор |
| 34. | Вітрэнка Наталля Міхайлаўна | 3,36 | (3,41) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, старшыня Прагрэсіўнай сацыялістычнай партыі |
| 35. | Алейнік Барыс Ільіч | 3,33 | (2,57) | Старшыня камісіі Вярхоўнай Рады па замежных справах і сувязях з СНД |
| 36. | Еўтухоў Васіль Іванавіч | 3,26 | (2,55) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 37-38. | Мацвіенка Анатоль Сяргеевіч | 3,21 | (2,88) | Лідэр Народна-дэмакратычнай партыі |
| 37-38. | Чыж Іван Сяргеевіч | 3,21 | (2,63) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі Сацыялістычнай партыі |
| 39. | Гурвіц Эдуард Іосіфавіч | 3,19 | (3,43) | Мэр Адэсы, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 40-41. | Лаўрыновіч Аляксандр Уладзіміравіч | 3,17 | (2,79) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, каардынатар фракцыі Народнага Руху |
| 40-41. | Стратовіч Уладзімір Мікалаевіч | 3,17 | (2,71) | Старшыня камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях прававой палітыкі |
| 42. | Марчанка Уладзімір Раманавіч | 3,09 | (3,14) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, намеснік старшыні Прагрэсіўнай сацыялістычнай партыі |
| 43. | Дурдзінец Васіль Васільевіч | 3,00 | (2,84) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 44. | Стоян Аляксандр Мікалаевіч | 2,95 | (2,62) | Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 45. | Кушнароў Яўген Пятровіч | 2,89 | (2,24) | Мэр Харкава |
| 46. | Маісеенка Уладзімір Міхайлавіч | 2,84 | (-) | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 47. | Супрунюк Яўген Уладзіміравіч | 2,82 | (-) | Старшыня Вярхоўнага Савета Аўтаномнай Рэспублікі Крым |
| 48. | Кастэнка Юрый Іванавіч | 2,77 | (3,20) | Міністр навакольнага прыроднага асяроддзя і ядзернай бяспекі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 49. | Джамілеў Мустафа | 2,76 | (-) | Лідэр Меджліса крымска-татарскага народа |
| 50. | Мармазаў Яўген Васільевіч | 2,75 | (-) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, каардынатар фракцыі камуністаў |

Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» і «Независимая газета» (Масква) сумесна з фірмай «Скарына (Мінск) і Цэнтрам палітычных даследаванняў і канфліктalогіі (Кіеў) працягваюць вызначэнне 50 уплывовых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны па выніках штомесячнага апытання экспертаў.

У прадстаўленых табліцах 1, 2 і 3 указаны рангавае становішча вядучых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны (з 1-га па 50-е) і сярэдні бал, які фіксуе ступень уплыву кожнага на ўнутраную і знешнюю палітыку іх краін у мінулым месяцы. Для ацэнкі меры ўплывовасці выкарыстоўвалася 10 бальная шкала, дзе «10» азначае максімальную, а «1» — мінімальную ступень уздзеяння. Калі палітык у адпаведным месяцы, на думку экспертаў, наогул не аказваў ніякага ўплыву на палітычную сітуацыю ў сваёй краіне, то яму выстаўляецца нулявая ацэнка.

Папярэдні спіс для вызначэння 50 найбольш уплывовых палітыкаў у Мінску быў складзены са 101-прозвішча, у Маскве — са 149, а ў Кіеве — са 111.

У спісах былі прадстаўлены найбольш прыметныя фігуры заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў трох краін, лідэры вядучых палітычных партый і грамадскіх арганізацый, вядомыя рэлігійныя дзеячы, рэгіянальныя кіраўнікі, якія дзейнічаюць на агульнадзяржаўным узроўні. Меру іх уплывовасці вызначалі ў Мінску — 53, у Маскве — 59, а ў Кіеве 45 экспертаў. Гэта кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі, палітычныя аглядальнікі і вядучыя палітолагі. У апытанні прымалі ўдзел эксперты рознай (ліберальнай, нацыянальнай, цэнтрысцкай і сацыялістычнай) арыентацыі.

У Беларусі апытанне праводзілася з 24 па 27 красавіка, у Расіі — з 25 па 29, а на Украіне — з 27 па 30 красавіка.

**Службовая структура палітычнай эліты Беларусі, Расіі і Украіны ў красавіку**
***(па рэйтынгу 50 вядучых палітыкаў)***

| Службовыя групы дзяржаўных дзеячаў | Беларусь красавік | Беларусь сакавік | Расія красавік | Расія сакавік | Украіна красавік | Украіна сакавік |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дэпутаты вышэйшых органаў заканадаўчай улады (Вярхоўнага Савета, Дзяржаўнай думы і Вярхоўнай Рады) | 20 | (20) | 10 | (12) | 28 | (28) |
| 2. Прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і іншых структур прэзідэнцкай улады | 9 | (9) | 8 | (8) | 3 | (4) |
| 3. Члены ўрада, уключаючы кіраўнікоў сілавых ведамстваў | 11 | (12) | 14 | (11) | 18 | (18) |
| 4. Кіраўнікі мясцовых органаў улады гарадскога, абласнога (а ў Расіі і на Украіне -- рэспубліканскага) звяна | 1 | (1) | 10 | (11) | 6 | (4) |
| 5. Прадстаўнікі судовых органаў, пракуратуры і кантрольнай палаты | 3 | (3) | 2 | (2) | 1 | (1) |
| 6. Кіраўнікі фінансавых структур і прадпрымальніцкіх арганізацый | 1 | (2) | 1 | (1) | 1 | (2) |
| 7. Прадстаўнікі рэлігійных арганізацый | 1 | (1) | 1 | (1) | 2 | (2) |
| 8. Прафсаюзныя дзеячы | 2 | (2) | - | - | 1 | (1) |
| 9. Кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі | 1 | (1) | 3 | (1) | 1 | (1) |
| 10. Лідэры непарламенцкіх партый | 3 | (1) | - | (2) | 1 | (1) |
| 11. Прадстаўнікі іншых дзяржаўных структур (Цэнтрвыбарком і г. д.) | - | - | 1 | (1) | - | - |
| Усяго: | 521 | 52 | 50 | 50 | 62 | 62 |

1) Усе прафсаюзныя дзеячы Беларусі і Украіны, указаныя ў гэтай табліцы, адначасова з'яўляюцца дэпутатамі парламентаў. Дэпутатамі Вярхоўнай Рады Украіны з'яўляюцца таксама двое кіраўнікоў мясцовых органаў улады і 9 членаў урада. У выніку сумарная колькасць дзяржаўных дзеячаў па Беларусі і Украіне перавышае 50.

У красавіку, як і ў сакавіку, ключавую ролю ў знешняй і ўнутранай палітыцы Беларусі, Расіі і Украіны адыгрывалі кіраўнікі дзяржаў Аляксандр Лукашэнка, Барыс Ельцын і Леанід Кучма. У Рэспубліцы Беларусь Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка захоўвае бясспрэчнае лідэрства, больш чым на два балы адарваўшыся ад сваіх сапернікаў, у Расіі працягваецца проціборства паміж прэзідэнтам Барысам Ельцыным і лідэрам апазіцыі Генадзем Зюганавым, а на Украіне літаральна «на пяткі» прэзідэнту Леаніду Кучму наступае прэм'ер-міністр Яўген Марчук.

Галоўнай падзеяй, якая вызначае палітычнае жыццё СНД у бліжэйшыя месяцы, з'яўляюцца прэзідэнцкія выбары ў Расіі. У спісе вядучых расійскіх палітыкаў у красавіку і ў сакавіку два асноўныя кандыдаты ў прэзідэнты — Барыс Ельцын і Генадзь Зюганаў займаюць, адпаведна, першае і другое месцы (гл. табліцу 5). У красавіцкім рэйтынгу вядучых палітыкаў Рыгор Яўлінскі займае 10-е месца, Уладзімір Жырыноўскі — 13-е, Аляксандр Лебедзь — 14-е (за месяц ён значна пайшоў уверх), Аман Тулееў — 32-е, Святаслаў Фёдараў — 33-34-е, а Міхаіл Гарбачоў — 51-е.

У красавіку ў спіс 50 вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь вярнуўся віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун (46-е месца), а таксама ў яго ўпершыню ўвайшлі чатыры прадстаўнікі парламенцкай і пазапарламенцкай апазіцыі, якія ўдзельнічалі ў арганізацыі апошніх акцый масавага пратэсту супраць інтэграцыі з Расіяй: намеснік старшыні Сойма БНФ Юрый Хадыка (20-е месца), намеснік старшыні Рады БНФ Лявон Баршчэўскі (21—22-е), дэпутат Вярхоўнага Савета Павел Знавец (37—40-е) і дэпутат Вярхоўнага Савета Павел Данейка (49—50-е месца).

У мінулым месяцы, пасля працяглага перапынку, зноў уголас заявіў аб сабе Беларускі народны фронт, і тры яго лідэры ў красавіцкім рэйтынгу занялі адпаведна 8-е, 20-е і 21-22-е месцы. Але апошнія акцыі БНФ у Мінску былі ўспрыняты ў грамадстве яўна неадназначна. Так, калі месяц назад дзейнасць З. Пазняка ацэньвалі адмоўна толькі 16,7 працэнта экспертаў, то цяпер іх колькасць павялічылася да 43,4 працэнта.

**Рэйтынг кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Расіі ў красавіку.**

| Прозвішчы прэтэндэнтаў | Месца ў спісе вядучых палітыкаў: красавік | Месца ў спісе вядучых палітыкаў: сакавік |
|---|---|---|
| 1. Ельцын Б. М. | 1 | (1) |
| 2. Зюганаў Г. А. | 2 | (2) |
| 3. Яўлінскі Р. А. | 10 | (9) |
| 4. Жырыноўскі У. В. | 13 | (11) |
| 5. Лебедзь А. І. | 14 | (25) |
| 6. Тулееў А. М. | 32 | (38) |
| 7. Фёдараў С. М. | (33-34) | (29) |
| 8. Гарбачоў М. С. | 51 | (62-63) |
| 9. Брынцалаў В. А. | - | - |
| 10. Уласаў Ю. П. | - | - |
| 11. Шакум М. Л. | - | - |

У красавіку спіс 50 вядучых палітыкаў Расіі ўпершыню папоўнілі кіраўнік тэлеканала НТБ, член прэзідэнцкай перадвыбарнай каманды Ігар Малашэнка (36-е месца), дырэктар Федэральнай службы знешняй палітыкі Вячаслаў Трубнікаў (39-е), першы намеснік старшыні ЦІК КПРФ, кіраўнік перадвыбарнага штаба Генадзя Зюганава, Валянцін Купцоў (40-41-е), старшыня Усерасійскай тэлерадыёкампаніі Эдуард Сагалаеў (47-е) і старшыня Дзяржкаммаёмасці Аляксандр Казакоў (49-е). Заканамерна, што ў расійскім рэйтынгу цяпер вылучаюцца палітыкі, якія актыўна ўдзельнічаюць у арганізацыі і інфармацыйным забеспячэнні прэзідэнцкіх выбараў (І. Малашэнка, В. Купцоў, Э. Сагалаеў).

На Украіне ў красавіку якіх-небудзь важных палітычных змен не адбылося і ўсе «навічкі», якія ўвайшлі ў спіс вядучых палітыкаў, не ўзняліся вышэй за 45-е месца. У мінулым месяцы істотна павысіўся рэйтынг Леаніда Краўчука. Магчыма, гэта звязана са спробамі некаторых фракцый парламента зняць Старшыню Вярхоўнай Рады Аляксандра Мароза і вылучыць на гэту пасаду экс-прэзідэнта Украіны.

## ДАЛЁКАЕ ЗАМЕЖЖА СТАНОВІЦЦА БЛІЖЭЙ. КАЛІ ЗДЫМАЕШ ТРУБКУ ТАКСАФОНА

**Першая партыя універсальных тэлефонаў-аўтаматаў устаноўлена ў пунктах міжгародняй сувязі сталіцы, а таксама абласных цэнтраў рэспублікі.**

Універсальныя таксафоны, пазваніць з якіх можна не толькі ў любы горад рэспублікі ці братніх краін, але і краін далёкага замежжа, маюць гарызантальны картапрыёмнік, што выключае магчымасць узлому апарата. Электронная картка для гэтага тэлефона распрацавана і выканана прадпрыемствам «Агат». Універсальныя таксафоны пасля месяца выпрабаванняў і наступнай дапрацоўкі будуць устаноўлены ў рэспубліцы паўсюдна. Аднак, як паведаміў намеснік дырэктара прадпрыемства «Белтэлеком» Мікалай Крукоўскі, акрамя кропак міжгародняй сувязі такія апараты будуць устанаўлівацца ў афіцыйных установах, на гандлёвых прадпрыемствах, вакзалах, у іншых грамадскіх месцах, але не на вуліцах. Час, калі даведнікі будуць ляжаць ля тэлефонаў-аўтаматаў, для нас яшчэ не наступіў. Не таму, што няма магчымасці гэтыя даведнікі выдаць і пакласці, а таму, што пакуль яны там доўга не праляжаць. Дарэчы, заводам «Электроніка» распрацаваны гарызантальны картапрыёмнік для гарадскіх таксафонаў. Зараз адбываецца паступовая замена старога блока на новы. Да канца года ўсе гарады рэспублікі будуць мець адзіную картачна-тэлефонную сістэму: купіўшы картку ў сталіцы, размаўляць па вулічным тэлефоне мы зможам у любым раённым горадзе рэспублікі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## УСТАНОЎЛЕНЫ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ З МАЛЬТЫЙСКІМ ОРДЭНАМ

**Геаграфія міжнародных кантактаў нашай дзяржавы расшырылася.**

У Пасольстве Беларусі ў Францыі адбылося падпісанне пратакола паміж рэспублікай і Суверэнным Ваенным Мальтыйскім Ордэнам аб устанаўленні дыпламатычных адносінаў.

Дакумент з беларускага боку падпісала Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол рэспублікі ў Францыі Ніна Мазай.

**БЕЛТА.**

## ПАСМЯЁМСЯ Ў СПОРАВЕ

У Бярозаўскім раёне праведзены два адборачныя туры выканаўцаў гумару маючага адбыцца ў сярэдзіне чэрвеня ў вёсцы Спорава абласнога фестывалю народнага гумару «Спораўскія жарты». Мяркуецца, што гэтае свята пройдзе накшталт міжнароднага аўцюкоўскага, а можа і лепш, таму што таленавітых самадзейных паэтаў, празаікаў, чытальнікаў, выканаўцаў прыпевак, расказчыкаў анекдотаў, гарманістаў у раёне шмат.

Да ўдзелу ў свяце народнага гумару запрошаны госці з іншых абласцей, а таксама з Украіны, Расіі, Польшчы.

**Людміла ГІЛЕВА.**

## КОЛЬКІ Ў СВЕЦЕ ПРАФЕСІЙ?

Колькі ўсяго прафесій, якія існуюць на Зямлі, удалося даведацца карэспандэнту інфармацыйнага агенцтва **«Аргументы и факты-Новости»**, пагартаўшы 34-томны даведнік, выдадзены Нюрнбергскім ведамствам працы. Па падліках нямецкіх спецыялістаў, усяго ў свеце колькасць прафесій дасягнула сямідзесяці пяці тысяч.

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ШКОЛЬНЫ БАЛЬ

**ВЯСНА 1993 года**

**Краіна знаходзілася ў працэсе абнаўлення, жыла ў веры і з надзеяй. Творчы ўздым адчувалі мастацкія калектывы; востра запатрабаваліся творы нацыянальнай тэматыкі, што адпавядала самастойнаму, суверэннаму шляху развіцця грамадства.**

Натхнёным было і жыццё ансамбля «Сябры»: ладзіліся канцэрты, развучвалася новая праграма. Адказны перыяд настаў для салісткі ансамбля Алесі. Яна рыхтавалася... да выпускных экзаменаў у школе.

Гледачы звыкліся бачыць на сцэне мілавідную, з затоенай усмешкай дзяўчыну, чуць яе серабрысты, пералівісты голас — і ім здавалася, што яна ў спеўным калектыве шмат гадоў. Алеся ўвайшла ў артыстычнае жыццё ў 1991 годзе: спявала з Дзмітрыем Смольскім, выступала з сольнымі нумарамі. Яе голас звінеў жаўруком, нібы праменьчык лунаў над прастораю...

Аднак Алеся заставалася школьніцай, са сваімі вучнёўскімі захапленнямі і праблемамі. Вучылася яна ў 118-й мінскай сярэдняй школе.

Калегі па ансамблі задумалі зрабіць юнай артыстцы своеасаблівы падарунак — прысвяціць ёй песню, якую яна выканае ў дзень атрымання атэстата сталасці. Задума была арыгінальная, патрабавалася толькі творчае яе ўвасабленне. Прапанавалі паэту Алесю Бадаку (з ім ансамбль трывала падтрымлівае сувязі) напісаць тэкст песні. Мікалай Сацура ўзяўся пакласці яго на музыку...

У веснавыя дні, калі па вуліцах беглі гаманлівыя ручайкі, а сонца ўсё вышэй паднімалася над гарызонтам і ўсё вакол абуджала пачуцці, наводзіла на ўспамін, Алесь працаваў над тэкстам. Душэўныя трымценні пераліваліся ў паэтычныя радкі. Школьнае жыццё блізкае для кожнага. Усе мы родам з дзяцінства, з той прасторава-часавай краіны, дзе дамінуюць пачуцці, і дзеці, падлеткі, не вельмі абцяжараныя матэрыяльнымі клопатамі, жывуць пачуццёвымі памкненнямі, завоблачнымі марамі, мушкецёрскім братствам.

Гэтыя ж пачуцці ўзнавіліся і ў Мікалая Сацуры, калі ён атрымаў тэкст. У незвычайны падарунак ён імкнуўся ўкласці сваё, асабістае, выпакутаванае ў школьны перыяд і пасля яго. Успаміны, роздум перапаўнялі кампазітара — і яны адлюстраваліся ў музыцы. Напісаная ў тэмпе вальса, яна перадае светлыя парыванні юнакоў і дзяўчат, чысціню іх намераў і ўтрымлівае элегічныя ноткі. Там, у школе, застаецца адметны перыяд жыцця, звязаны з рамантычным успрыманнем рэчаіснасці. Настальгічныя перажыванні будуць увесь час апаноўваць асобу — і гэты момант выразна падкрэслены ў тэксце і ў мелодыі песні...

Песню «Школьны баль» спявала Алеся на выпускным вечары для аднакласнікаў, настаўнікаў, бацькоў. Выкананы з любоўю і пяшчотаю, падарунак выйшаў за межы асабістага — стаў здабыткам для ўсіх...

Новы перыяд у развіцці грамадства. Новы этап і ў жыцці Алесі. Цяпер яна вучыцца ў Беларускім універсітэце культуры, ужо заканчвае трэці курс па спецыяльнасці «рэжысёр народных святаў». Свой падарунак — песню «Школьны баль» — яна дбайна беражэ і па-дзіцячаму шчыра дзеліцца з усімі. І мы разам з ёю перапаўняемся пачуццямі, успамінамі, застаемся ў школьным юнацтве.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## ШКОЛЬНЫ БАЛЬ

*Музыка Мікалая САЦУРЫ* *Верш Алеся БАДАКА*

*Нам з табою пакуль што не верыцца,*
*Што дзяцінства прайшло назаўжды.*
*Нам здаецца, паклічаш — і вернецца*
*І чароўнай усмешкай засвеціцца,*
*Да сябе павядзе праз гады.*

***Прыпеў:***

*Школьны баль, школьны баль,*
*Я прашу, я прашу, не канчайся!*
*Школьны баль, школьны баль,*
*Пакружы, пакружы нас у вальсе!*
*Многа нам яшчэ трэба сказаць,*
*І з надзеяй і сумам глядзяць,*
*Мілыя вочы з надзеяй глядзяць.*
*Мы сягоння нікуды не познімся*
*І з ахвотай заходзім у клас.*
*Нашы сэрцы пяшчотаю поўняцца.*
*Калі ласка, такімі запомніце,*
*Дарагія настаўнікі, нас.*

***Прыпеў.***

*Тут спазналі нямала харошага,*
*Навучыліся многаму мы.*
*І каханне, яшчэ асцярожнае,*
*Ўсім дарыла нам казкі прыгожыя,*
*Нібы лета ў сумётах зімы.*

***Прыпеў.***

## УСХОДНІ ГАРАСКОП

### на наступны тыдзень

*З ДЭЛІ перадае кар. ІТАР—ТАСС Леанід КОТАЎ*

КАЗЯРОГУ неабходна набрацца цярпення, з якім трэба будзе працягваць выконваць работу і не ўцякаць ад адказнасці. Больш уважліва адносьцеся да фінансавых пытанняў — вельмі магчыма, што вас спрабуюць падмануць. Хатнім гаспадыням прыйдзецца ўстрымацца ад непатрэбных трат, а сямейнае жыццё па гэтай прычыне цалкам можа аказацца дрэнным.

У ВАДАЛЕЯ асноўныя падзеі чакаюцца ў канцы тыдня. У дзяржслужачых наперадзе павышэнне, у бізнесменаў з'явяцца новыя кантракты, адбываючыя ў круіз падымуць якар. Да тых, хто застаўся дома, завітаюць сваякі і зблытаюць планы на выхадныя. Ва ўсе дні тыдня ўстрымлівайцеся ад рамантычных прыгод, якія пагражаюць непажаданымі вынікамі.

РЫБАМ прыйдзецца адкласці ненадоўга важнае пачынанне. Руцінная работа нечакана прынясе вялікі і добры вынік. Магчыма, гэта будуць грошы, якія трэба тут жа пакласці ў банк. Не захоўвайце многа грошай дома, раіць астролаг, і будзьце ўважлівымі, калі пазычаеце іх.

Нічога характэрнага на тыдні не чакае АВЕНА. На рабоце ўсё пойдзе без зрываў, застанецца час на занятак любімай справай. Асабістае жыццё акажацца небагатым на падзеі. Сям'і, праўда, крыху будзе не хапаць вашай увагі, затое ў канцы тыдня гэты недахоп будзе з лішкам дапоўнены.

У ЦЯЛЬЦОЎ чакаюцца вялікія расходы і пошукі магчымасцей для латання дзірак у бюджэце. Астролаг раіць быць больш асцярожнымі пры заключэнні фінансавых здзелак. На рабоце магчымы нечаканыя прапановы ад начальства, а ў Цяльцоў у пагонах наперадзе адпраўка з важнай місіяй. Тыдзень у цэлым спрыяльны для заняткаў спортам, а таксама для вывучэння замежных моў.

БЛІЗНЯТАМ трэба рыхтавацца да сустрэчы з дарагім сэрцу чалавекам. І ўвогуле асабістае жыццё акажацца больш цікавым і прыемным, чым знаходжанне на рабоце. У маладых наперадзе падарожжа, адзінокіх чакае прыемнае знаёмства. Вось толькі не забывайце аб уласным здароўі. У гэтыя дні за ім трэба будзе асабліва сачыць.

Важная навіна зменіць будзённае жыццё РАКА. Па тэлефоне ён атрымае пацвярджэнне таго, што з важнай справай усё ў парадку. Але будзьце асцярожнымі: хтосьці з блізкіх людзей пастараецца вывесці вас з эйфарыі. У жанатых магчымы сямейныя праблемы, вырашаць якія прыйдзецца з дапамогай кампрамісаў.

ІЛЬВАМ трэба закончыць важную справу і скінуць клопаты з плячэй. Адбудуцца сустрэчы з тым, ад каго залежыць ваша далейшая паспяховая кар'ера. Нечакана пачуеце прызнанні ў каханні, ад каго падобнага ніколі не чулі. Новыя рамантычныя прыгоды будуць праходзіць у даволі незвычайнай абстаноўцы.

У ДЗЕВЫ многія справы наблізяцца да пажаданага выніку. Паступяць добрыя навіны, якія дапамогуць планаваць жыццё на будучыню. Тыдзень будзе асабліва спрыяльны для тых, хто займаецца творчасцю. Але і такім натурам не пазбегнуць размовы з блізкім чалавекам, якая, магчыма, будзе рэзкай, але затое шчырай.

У ШАЛЯЎ тыдзень пройдзе ў абмеркаванні нейкага новага праекта. Зоркі будуць спрыяць стварэнню сумесных прадпрыемстваў і наогул любому бізнесу. Фінансавыя справы пойдуць уверх, калі праявіце настойлівасць, смеласць у прыняцці рашэнняў, завязванні новых кантактаў. Не падвядуць і сваякі, ад якіх чакаецца падарунак або прапанаванне саліднай сумы.

У СКАРПІЁНА ў першыя дні тыдня будуць непрыемнасці на рабоце і дома. Вам трэба будзе набрацца цярпення і чакаць зменаў да лепшага. Прыйдзецца перажыць цяжкасці ў зносінах з блізкімі людзьмі, хоць у такой сітуацыі будзеце вінаватыя самі. Вас таксама будуць даймаць плёткі, на якія, як раіць астролаг, не трэба звяртаць увагі.

СТРАЛЬЦОЎ абрадуе знаходка даўно страчанай рэчы. Аднак радасць ад гэтага тут жа заслоняць розныя клопаты на рабоце і па дому. Бізнесменаў парадуе новы кантракт, а да кагосьці паступіць важнае паведамленне па пошце ці тэлефоне. Прадстаўніцы цудоўнага полу будуць захоплены пакупкамі і змяненнем уласнага жылля.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 2. Санаторый на Гродзеншчыне. 7. Беларуская вальсападобная полька. 8. Беларускі пісьменнік, аўтар рамана «Плач перапёлкі». 10. Старадаўняя гаспадарчая пабудова. 11. Буйны стадыён у Мінску. 12. Беларускі першадрукар. 15. Цэнтральнае возера Бярэзінскага запаведніка. 17. Першы беларускі балет кампазітара М. Крошнера. 18. Народная рухомая гульня. 20. Беларускі скульптар і жывапісец, аўтар партрэта С. Цімашэнкі. 21. Рэспубліканскі спартыўна-трэніровачны комплекс. 25. Народная камандная рухомая гульня. 26. Старажытны горад Полацкай зямлі. 27. Філіял міжнароднага цэнтра па вывучэнню балотаў на Беларусі. 30. Традыцыйная беларуская страва. 31. Карціна беларускага жывапісца Г. Вашчанкі. 32. Беларуская пісьменніца, якая выдала «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік». 34. Народны артыст Беларусі, які зняўся ў кінафільме «Я, Францыск Скарына». 35. Зборнік апавяданняў М. Лынькова. 36. Персанаж беларускай казкі «Пану навука».

**Па вертыкалях:** 1. Рэспубліканскае кніжнае выдавецтва. 2. Манумент у Брэсцкай крэпасці-герoі. 3. Традыцыйная рыбалоўная прылада. 4. Від народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. 5. Від дэкаратыўнага жывапісу. 6. Гісторыка-рэвалюцыйны фільм кінарэжысёра А. Файнцымера. 9. Вядомая народная казачніца. 13. Вытканы ўручную дыван-карціна. 14. Беларускі пісьменнік, аўтар рамана «Серадзібор». 15. Возера ў Глыбоцкім раёне. 16. Раённы цэнтр на Гомельшчыне. 18. Аўтар першай беларускай оперы для дзяцей «Марынка». 19. Прыток Сожа. 22. Раман Э. Самуйлёнка. 23. Беларускі народны танец ва ўмераным тэмпе. 24. Дэкаратыўная пабудова для адпачынку. 28. Раённы цэнтр на Магілёўшчыне. 29. Раман І. Шамякіна. 32. Беларускі скульптар, аўтар манументаў «Рэйкавая вайна», «Юныя мсціўцы». 33. Уверцюра Я. Цікоцкага.



**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*

### ГАЛАВАЛОМКА




На малюнку — дзевяць чатырохклетачных квадратаў з літарамі. Калі іх памяняць месцамі і расставіць у пэўным парадку, то можна прачытаць вядомую прымаўку.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён.*

### ЛАГАГРЫФЫ




Ніжэй прыведзены словы-загадкі. Трэба з іх атрымаць лагагрыфы, дабаўляючы да кожнага толькі адну літару — спачатку, у сярэдзіне або ў канцы. Карыстаючыся гэтымі літарамі ў адпаведнасці з парадкавым нумарам слова-загадкі, у клетках малюнка прачытайце мудрую ісціну.

Словы-загадкі: 1. Брус. 2. Ручка. 3. Ежа. 4. Бак. 5. Атэль. 6. Губа. 7. Сага. 8. Гора. 9. Метр. 10. Гума. 11. Лава. 12. Куль. 13. Абза. 14. Траса. 15. Курс.

**Склаў Рыгор ЯКУШ.** *г. Мінск.*

### ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка (18 мая). Па гарызанталях:** 4. Арандатар. 7. Сеанс. 8. Тунец. 10. Аркестр. 12. Катах. 13. Алмаз. 14. Налік. 15. Сквер. 16. Алеандр. 17. Эстрада. 20. Вырай. 22. Тарыф. 23. Горкі. 24. Ірына. 25. Калгары. 26. Астра. 27. Калье. 28. Майбарада. **Па вертыкалях:** 1. Будапешт. 2. Красавік. 3. Кантракт. 5. Верхнядзвінск. 6. «Беларусьфільм». 9. Баскетбол. 11. Парламент. 18. «Маскарад». 19. Барыкада. 21. Нагасакі.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2591.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12